# Аб пляне збожжазагатовак з ураджаю 1932 г. і разгортваньні калгаснага гандлю збожжам

## Пастанова СНК СССР і Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б)

1. На аснове перамогі калгаснай і саўгаснай сыстэмы гаспадаркі над сыстэмай аднаасобнай гаспадаркі і разгрому кулацкіх элемэнтаў у вёсцы— СССР у 2 гады дасягнуў такога разгортваньня збожжавай гаспадаркі, пашырэньня пасеўных плошчаў і росту валавой прадукцыі збожжа, што замест 660 млн. пуд. збожжа (разам з гарнцам), загатоўленых ад ураджаю 1928 году, на аснове аднаасобнай гаспадаркі—у 1930 годзе, дзяржаўныя загатоўкі дасягнулі 1.350 млн. пудоў збожжа (разам з гарнцам), а ў 1931 годзе, ня гледзячы на засуху— 1.400 млн. пудоў (разам з гарнцам).

Гэтыя посьпехі тлумачацца перш за ўсё тым, што калгасы, як буйная аб'яднаная гаспадарка, атрымалі магчымасьць праз машынатрактарныя станцыі прыстасаваць і найлепш скарыстаць трактары і машыны, пашырыць пасеўныя плошчы і палепшыць агратэхнічную пастаноўку справы, а саўгасы ператварыліся ў буйнейшыя фабрыкі збожжа, якія забясьпечваюць дзяржаве з году ў год узрастаючы збожжавы фонд.

Дзякуючы ажыцьцяўленьню палітыкі ленінскай партыі, краіна вышла з крызісу збожжавай гаспадаркі і перамагае труднасьці, выкліканыя засухай мінулага году ва ўсходніх раёнах СССР, значна больш пасьпяхова, чым гэта мела месца ў мінулыя засушлівыя гады, калі дробная сялянская гаспадарка яшчэ пераважала ў нашай краіне.

2. Разам з тым, у рэзультаце посьпехаў у справе ажыцьцяўленьня пяцігодкі ў галіне прамысловасьці ўсё больш растуць магчымасьці Савецкага саюзу ў галіне вытворчасьці прамысловых тавараў як для задавальненьня вытворчых патрэб калгасаў, так і асабістых патрэбнасьцяй працоўных вёскі.

У сувязі з гэтым непарыўным ростам колькасьці прамысловых тавараў і ростам вытворчасьці збожжа ў вёсцы павялічваюцца магчымасьці разгортваньня калгаснага гандлю. Калгасны гандаль становіцца ўсё больш важнай дадатковай крыніцай снабжэньня гарадоў прадуктамі с.-г. вытворчасьці.

У сувязі з гэтай акалічнасьцю савецкая ўлада атрымала магчымасьць побач з мэтадам дзяржаўных самазагатовак практыкаваць, як сродак снабжэньня гарадзкога насельніцтва другі мэтад—мэтад гандлю збожжам самімі калгасамі і калгасьнікамі. Задача заключаецца ў тым, каб у інтарэсах далейшага пашырэньня таваразвароту паміж горадам і вёскай і яшчэ большага палепшаньня снабжэньня гарадзкога насельніцтва спалучыць гэтыя два мэтады і разгарнуць калгасны гандаль збожжам за кошт некаторага скарачэньня дзяржаўных збожжазагатовак па сялянскім сэктары, павялічыўшы адначасова загатоўкі па калгасным сэктары.

На падставе усяго гэтага Савет народных камісараў СССР і Цэнтральны камітэт УсеКП(б) пастанаўляюць:

а) зьменшыць дзяржаўны плян збожжазагатовак па СССР з ураджаю 1932 году па калгасах і аднаасобнай гаспадарцы ў параўнаньні з плянам 1931 г. на 264 млн. пуд., устанавіўшы для 1932 году плян у 1.103 млн. пудоў пры сярэднім ураджаі (бяз гарнца) замест леташняга пляну ў 1.367 млн. пуд.

У адпаведнасьці з гэтым вызначыць параённа наступны плян збожжазагатовак (бяз гарнца):

**па Украіне**—365 млн. пуд. замест пляну мінулага году ў 434 млн. пуд.;

**па Паўночным Каўказе**—136 млн. пуд. замест пляну мінулага году ў 154 млн. пуд.;

**па Крыме**—10 млн. пуд. замест пляну мінулага году—11 млн. пуд.;

**па ЦЧВ**—115 млн. пуд. замест пляну мінулага году—128 млн. пуд.;

**па Татарыі**—24 млн. пуд. замест пляну мінулага году—31 млн. пуд.;

**па Казакстану**—38 млн. пуд. замест пляну мінулага году—57 млн. пуд.;

**па Ўсходняй Сібіры**—29 млн. пуд. замест пляну мінулага году—32 млн. пуд.;

**па Сярэдняй Азіі**—32 млн. пуд. замест пляну мінулага году—25 млн. пуд.;

**па Маскоўскай вобласьці**—27 млн. пуд. замест пляну мінулага году—31 млн. пуд.;

**па Ніжагародзкім краі**—29 млн. пуд. замест пляну мінулага году—33 млн. пуд.;

**па Заходняй вобласьці**—6 млн. пуд. замест пляну мінулага году—8 млн. пуд.;

**па Ленінградзкай вобласьці**—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—5 млн. пуд.;

**па Іванаўскай вобласьці**—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—5 млн. пуд.;

(*Працяг на 3-й стар. вокладкі*).



XVIII.

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.

ЗЬМЕСТ



№ 5-6

МАЙ—ЧЭРВЕНЬ

1932 г.



# ЗА РАШУЧАЕ РАЗЬВІЦЬЦЁ ТРУСАГАДОЎЛІ

Папярэдняя практыка ў галіне трусагадоўлі мела ў сабе ня толькі недахопы, а і бліскучыя прыклады, якія красамоўна абвяргаюць розныя апартуністычныя і мяшчанскія развaжаньні на тэму аб несур'ёзнасьці і дробязнасьці гэтай справы. Разгорнутая трусагадоўля ў радзе калгасаў і саўгасаў, а таксама і ў паляўнічых гаспадарках пры ўсіх сваіх недахопах робіць відавочным той факт, што трусагадоўля можа і павінна служыць адным з надзейных сродкаў у вырашэньні мясной праблемы. Аднак, нельга ня прызнаць таго, што ня толькі паасобныя таварышы, каму дадзена працаваць над вырашэньнем мясной праблемы, але, больш таго, у цэлых зьвеньнях нашай каапэрацыі, у саўгасах і калгасах і нават у паляўнічых гаспадарках наглядаліся і наглядаецца вялікая пагордлівасьць у датычэньні да трусагадоўлі і інш.

Некаторыя таварышы і зараз працягваюць тую думку, што зрывы і высокая сабекаштоўнасьць трусагадоўчых гаспадарак тлумачыцца „аб'ектыўнымі ўмовамі". „Бачце,—развaжаюць яны,—ва ўмовах Беларусі гэта ня тое, што на Украіне ці ЦЧО, дзе можна бяз вялікіх укладаньняў стварыць добрапрыстасаваныя выпасы ды ўвогуле кармавая праблема там вырашаецца куды лягчэй". Ці інакш: „Іншая справа, кажуць, сьвіньня ці буйная рагатая жывёла! Як ні кажы, а там кусок налічвае ня кілёграмы, а цэнтнэры і ўсё такое".

Такіх развaжаньняў не абярэшся, іх шмат і яны ня могуць не накладваць свой адбітак на практыку пастаноўкі трусагадоўлі.

Сумнявацца ня прыходзіцца, што амаль уся папярэдняя практыка ў барацьбе за пашырэньне статку трусоў у нас, у БССР, была прасякнута нядбайствам, апартунізмам, чрэвата бюракратычнай руцінай і коснасьцю. Барскія адносіны да трусагадоўлі былі звычайнай справай, а дзе-ні-дзе і зусім сходзілі за вытрымана-вумны тон і, канешне, на шкодны. Людзі былі здольны гаварыць даўжэзныя прамовы аб чым хочаце, толькі не пра трусагадоўлю; сядзелі па 10 гадзін на нарадах па поваду выедзенага яйца, але не маглі выкраіць і пяці хвілін для вырашэньня важнейшых пытаньняў трусагадоўлі. Работа часта вялася без усялякага грамадзкага кантролю. І, як вынік, уся пастаноўка справы не адказвала вымаганьням задач у вырашэньні мясной праблемы, трусагадоўля зусім не ў дастатковай ступені выкарыстоўвалася, як надзейны сродак ў палепшаньні забесьпячэньня рабочых мяснымі прадуктамі і інш. Апошняя пастанова ЦК УсеКП(б) пра разьвіцьцё трусагадоўлі ў прамысловых раёнах Маскоўскай, Ленінградзкай і Івана-Вазьнясенскай вобласьцях з ўсёй яскравасьцю падкрэсьліла, што **трусагадоўля павінна зьявіцца магутным сродкам у барацьбе партыі за палепшаньне рабочага забесьпячэньня, у вырашэньні мясной праблемы.** Гэтая важнейшая пастанова абавязвае нашы арганізацыі і ў першую чаргу гаспадарчыя, асабліва паляўнічыя, да таго, каб, не зьмяншаючы ўвагі іншым галінам жывёлагадоўлі, усямерна фарсіраваць вучастак трусагадоўлі.

Ранейшыя ў гэтых адносінах тэмпы і ўвага ня могуць задавальняць зараз узрастаючых патрэб сацыялістычнага будаўніцтва. Гіганцкая работа ў галіне індустрыялізацыі краіны, калі ў адзін-два гады вырастаюць цэлыя гарады з дзесяткамі тысяч новага пралетарыяту, задачы пасьпяховага завяршэньня першай пяцігодкі і падрыхтоўка да ўступленьня ў бясклясавае грамадзтва ва ўсю шырыню ставяць праблему рабочага забесьпячэньня і савецкага гандлю. Выходзячы з гэтага, трусагадоўля і павінна зьявіцца адным з важнейшых рычагоў у справе хутчэйшага зьнішчэньня некаторых цяжкасьцяй у забесьпячэньні працоўных мяснымі прадуктамі харчаваньня.

Баявой задачай кожнай паляўнічай гаспадаркі, кожнага паляўнічага на бліжэйшы час зьяўляецца барацьба за арганізацыю трусагадоўлі, за рэалізацыю апошняй пастановы партыі ў гэтай галіне. Адкладваць гэтую задачу будзе недапушчальнай праявай самага махровага апартунізму да выкананьня дырэктыў партыі і ўраду.



Не сакрэт, што дагэтуль абыякавыя адносіны да трусагадоўлі не садзейнічалі поўнаму выкарыстаньню ўсіх мажлівасьцяй, поўнай мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў у калгасах, саўгасах і спэцыяльна-паляўнічых гаспадарках. Наадварот, бескантрольная пастаноўка справы ў радзе месц вымагала вялікія, беспатрэбы, капіталаўкладаньні. Бюракратызм гаспадарнікаў не садзейнічаў унядрэньню больш мэтазгодных, таньнейшых з эканамічнага боку канструкцый трусятнікаў і інш., а гэта ў агульным выніку на зашмат узьнімала сябе каштоўнасьць прадукцыі, затрымлівала масавае разьвіцьцё трусагадоўлі.

Адказьнейшай задачай сёнешнага дню павінна зьявіцца работа па ўнядрэньню масавай трусагадоўлі ў працоўнае насельніцтва, у рабочыя масы.



Трусаводная фэрма Курасоўшчына. Цальеры з клеткамі.

Толькі пры такім падходзе да справы можна будзе забясьпечыць своечасовую і поўную рэалізацыю дырэктывы партыі. ЦО нашай партыі „Правда“ ў сваёй перадавой ставіць пытаньне проста: усякія спробы разглядаць трусагадоўлю, як нясур'ёзную справу, супярэчаць лініі партыі, зрываюць адно з важнейшых мерапрыемстваў затрымліваюць справу палепшаньня рабочага забесьпячэньня. Падобная пастаноўка пытаньня патрабуе тэрміновых захадаў у практычнай дзейнасьці, перш усяго нашай паляўнічай каапэрацыі.

Раённыя таварыствы паляўнічых павінны будуць зьявіцца штурхачамі і ініцыятарамі ў масавым разьвіцьці трусагадоўлі. Першыя крокі ў гэтым кірунку, як і ўся трусагадоўля прадумаўляюць сабой вялікую растлумачальную работу. Кожны паляўнічы ня можа ня прымаць дзейнага ўдзелу ў вырашэньні агульнанароднай у нас праблемы, праблемы мяса, праблемы палепшаньня рабочага забесьпячэньня. Гэта патрабуецца асабліва таму, што партыя ставіць пытаньне менавіта аб масавой трусагадоўлі. Не зьмяншаючы ўвагі да трусагадоўлі ў буйных гаспадарках, якія маюць плянава пабудаваныя трусятнікі і займаюцца трусагадоўляй даўно, зараз справа ідзе аб наладжваньні вырашчваньня трусоў пры закрытых разьмеркавацелях, прыгарадных гаспадарках каапэрацый, саўгасах, калгасах і школах, дзетдамах, і г. д. Больш таго масавае вырашчваньне трусоў мае на ўвазе ня толькі выключна колектыўнае вырашчваньне, а паўнейшае выкарыстаньне ўсіх наяўных магчымасьцяй па разьвядзеньню трусоў паасобнымі сем'ямі рабочых, калгасьнікаў, паляўнічымі і іншым працоўным элемэнтам. Неабходнасьць актыўнага ўдзелу ў справе трусагадоўлі паляўнічай каапэрацыі абумоўлена двума важнейшымі прычынамі. **Па-першае**—паляўнічая каапэрацыя, як блізкая да гэтай справы і мае вопыт ня можа ні ў якім разе застацца ў баку ад барацьбы за рэалізацыю важнейшых пастаноў партыі, ня можа быць глухой і пасыўнай у вырашэньні праблемы забесьпячэньня мясам пралетарскіх цэнтраў. **Па-другое**—паляўнічая каапэрацыя, раённыя таварыствы павінны ўзначаліць гэтую работу ў раёнах, ўвязацца ў барацьбу за разьвіцьцё трусагадоўлі і таму, што кожны посьпех у гэтай справе дае магчымасьць у самы кароткі час задаволіць наш рынак добраякаснай пушнінай, выпусьціць на рынак дзесяткі і сотні тысяч скурак, што дасьць магчымасьць узмацніць будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі.

Апошні момант набывае сур'ёзьнейшае значэньне асабліва зараз, калі ў нас на Беларусі зусім не пахвальнае становішча з выкананьнем плянаў загатовак пушніны.

Практычная дзейнасьць на мясцох павінна пайсьці па трох наступных кірунках: неадкладная падрыхтоўка памяшканьняў і вырашэньне пытаньня кармоў і выпасаў—**першае**; пры максымальнай мабілізацыі ўнутрыраённых рэсурсаў, тэрмінова павінна быць вырашана пытаньне племяннога матачнага статку, **другое і трэцяе**—павінна быць разгорнута вакол гэтага пытаньня самая шырокая растлумачальная праца з разьлікам на поўную ліквідацыю барскіпагардлівых і апартуністычных настрояў да трусагадоўлі, да труса. Растлумачальная работа, разам з гэтым павінна быць ад свайго пачатку і да канца прасякнута важнейшымі, неабходнымі зоотэхнічнымі ведамі, якія накапіліся ў трусаводаў паляўнічых Калі трус і зьяўляецца жывёлай ня надта патрабавальнай, калі ўсе правілы догляду за ім і можна выкласьці ў інструкцыі на аднэй старонцы, дык усё ж і гэтыя элемэнтарныя веды патрэбна мець, патрэбна практычна іх ажыцьцяўляць, каб быць гарантаваным у неабходных посьпехах.

Трусагадоўля, як адзін з надзейных сродкаў у барацьбе за сапраўднае палепшаньне рабочага забесьпячэньня, павінна атрымаць адно з першых месц у дзейнасьці кожнага таварыства і кожнага паляўнічага.

**Баявой задачай кожнай паляўнічай гаспадаркі, кожнага паляўнічага на бліжэйшы час зьяўляецца барацьба за разьвіцьцё трусагадоўлі, за рэалізацыю апошняй пастановы партыі ў гэтай галіне.**

# Трусагадоўля ўзмоцніць харчовыя рэсурсы

ЦК УсеКП(б) і СНК СССР у сваёй адозьве ад 30 ліпеня 1931 г. да партыйных, савецкіх, гаспадарчых і калгасных арганізацый указалі, што побач з разгортваньнем буйнай жывёлагадоўлі неабходна зьвярнуць асобную ўвагу на разьвіцьцё дробнай жывёлагадоўлі, сьвінагадоўлі, птушкагадоўлі і трусагадоўлі.

Гэта адозва ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі яшчэ і дагэтуль не атрымала патрэбнага ажыцьцяўленьня. Цэлы рад раённых і гарадзкіх таварыстваў паляўнічых адмахваюцца ад трусагадоўлі. У ячэйках паляўнічых, у калгасах, між асобнымі паляўнічымі і ўсім працоўным насельніцтвам гэтая пастанова зусім не папулярызавана. Тут была яўная недаацэнка з боку кіруючых органаў Белкахотсаюзу. Мала таго, калі цэнтральны орган „Правда" падняў голас за масавае разьвядзеньне трусоў, Белкахотсаюз словам не заікнуўся ні ў паляўнічым, ні ў партыйным або савецкім друку, як разьвіваецца і павінна разьвівацца трусагадоўля ў паляўнічай сыстэме каапэрацыі. **Мы ўправе запытацца ў райтаварыстваў, як яны мяркуюць разгарнуць масавае разьвядзеньне ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі, а таксама дапамагчы гэтай справе на фабрыках, заводах, сталоўках, ЗРК, сярод асобных сямей і ўсяго працоўнага насельніцтва.** Бо мы павінны сказаць: „кожны паляўнічы трусавод павінен узяць шэфства над трусагадоўляй". А што такое шэфства магчыма, гэта даводзіць ня прыходзіцца. Паляўнічая каапэрацыя мае 35 даволі буйных трусагадоўчых гаспадарак, мае кадры вопытных трусаводаў, якія могуць дапамагчы гэтай новай справе, мае племянны матар'ял.

Такія адносіны да трусагадоўлі павінны рэзка зьмяняцца. Праз паляўнічы друк—насьценгазэты і часопіс „Паляўнічы Беларусі"—на сходах і пасяджэньнях паляўнічых мы павінны мабілізаваць усю грамадзкасьць на разьвіцьцё трусагадоўлі. Белкахотсаюз павінен пакончыць з ідэяй—толькі гандаль і паляваньне і перайсьці на вытворчыя рэйкі працы не на паперы, а на справе. Кампанія распачалася і яе трэба па-бальшавіцку весьці. 35 тысяч з лішкам паляўнічых, аб'яднаных у паляўнічую каапэрацыю, большасьць з якіх ня толькі любяць прыроду, зьвера, жывёлу, птушку, а і самі зьяўляюцца ў мініятуры—хаця-б сабе і так!—жывёлаводамі і птушкаводамі і маюць жаданьне заняцца справай трусагадоўлі могуць заняцца гэтым і шэфстваваць над пачынаючымі—сталоўкамі, ЗРК і г. д., павінны перадаць свой вопыт працоўнаму насельніцтву. Асабліва шмат яны могуць зрабіць у калгасе і саўгасе, на фабрыцы, дапамагчы рабочаму сваім кіраўніцтвам, інструктажам, саветамі, як гадаваць і абыходзіцца з трусом.

Некаторыя нашы раённыя т-вы маюць вялізарны вопыт у арганізацыі трусаводных гаспадарак і дасягнулі вялікіх посьпехаў у гэтым напрамку. Гэтыя т-вы таксама павінны падзяліцца сваім вопытам з іншымі т-вамі паляўнічых. Старонкі нашае часопісі „П. Б." заўсёды гатовы да гэтага, гатовы распаўсюджваць і множыць іх вопыт.

Кожны асобны паляўнічы, які займаецца трусагадоўляй, павінен узяць шэфства над асобнай рабочай сям'ёй і дапамагчы ёй паставіць справу разьвядзеньня трусоў. Кожны калектыў паляўнічых на прамысловых прадпрыемствах павінен узяць шэфства над фабрыкай, заводам, ЗРК.

Адначасова з разьвіцьцём трусагадоўлі неабходна паставіць пытаньне аб забясьпечаньні трусоў кармамі. Усякія адкіды ў сельскай гаспадарцы, а таксама зялёнае гальлё дрэў, трава, сена, астаткі ў сталоўках—годны для кармоў трусоў.

Для гарэннага разьвядзеньня трусоў важна выкарыстоўваць не падыходзячыя для засеву курганы, але трэба ўсялякімі мерамі ўхіляцца балот і месц, блізка знаходзячыхся каля іх. На фабрыках і заводах па прыкладу „Трехгорки" неабходна арганізаваць т-вы садзейнічаньня трусагадоўлі.

Па нашай думцы, Белкахотсаюз павінен зараз-жа ўтварыць трусагадоўчую базу для прасоўваньня труса ў працоўныя масы на аснове кантрактацыі. Яго задача забясьпечыць паляўнічую ячэйку і рабочага паляўнічага ў горадзе племянным матар'ялам.

У бойку за труса! За палепшаньне харчаваньня рабочых! Дамо краіне тысячы цэнтнэраў высокагатунковага трусінага мяса!

**М. Трусаў.**



# Пастановы ЦК УсеКП(б) і Саўнаркома СССР аб збожжазагатоўках і мясазагатоўках у масы

У пачатку мая гэтага году партыяй і ўрадам выданы тры гістарычнай важнасьці пастановы: пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб збожжазагатоўках, жывёлазагатоўках і савецкім гандлі,— зьяўляюцца яскравымі паказчыкамі перамогі саўгаснай і калгаснай сыстэмы гаспадаркі над сыстэмай аднаасобнай гаспадаркі і разгрому кулацкіх элемэнтаў у вёсцы. СССР у два гады дасягнуў такіх тэмпаў разгортваньня збожжавай гаспадаркі, пашырэньня засеўных плошчаў, што замест загатоўленых у 1928 г. на аснове аднаасобнай гаспадаркі—660 млн. пудоў збожжа (разам з гарнцам)— у 1931 г., ня гледзячы на засушлівасьць—дзяржаўныя загатоўкі выявіліся ў 1.400 млн. пудоў (разам з гарнцам). Гэтыя пастановы—магутныя факты арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў— павінны прывесьці да яшчэ большага энтузіязму рабочых і сялян, да далейшага і значнага палепшаньня снабжэньня іх.

Калі некалькі год таму назад мы мелі нізкую вытворчасьць таварнай прадукцыі збожжа, дык пасьля ажыцьцяўленьня паказаньняў тав. Сталіна аб карэннай сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, мы дабіліся вялізарнейшых дасягненьняў у галіне падняцьця прадукцыі сельскай гаспадаркі.

Партыяй у штодзеннай практычнай рабоце выкрыты і абвергнуты „установкі" правых апартуністаў на вырашэньне збожжавай праблемы праз разьвіцьцё кулацкай гаспадаркі. Партыя дала рашучы адпор „левым" загібшчыкам, якія імкнуліся дыскрэдытаваць ідэі калектывізацыі. Разгарнуўшы барацьбу за сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі, за стварэньне саўгасаў і калгасаў, партыя атрымала рашаючыя перамогі: пад сельскую гаспадарку падведзен фундамант сацыялістычнай экономікі, ліквідуецца кулацтва як кляса на базе суцэльнай калектывізацыі, выкарыстоўваюцца перадавыя дасягненьні агра-тэхнікі, павялічваецца таварнасьць калектыўнай гаспадаркі, пашыраюцца засеўныя плошчы.

Законам аб сельскагаспадарчым падатку на 1932 г. прадугледжана вызваленьне па калектыўных гаспадарках ад абкладаньня ўсяе распрацаванае плошчы цаліны. Усе ўноў асвоеныя калгасныя плошчы па засеву тэхнічнымі культурамі таксама вызваляюцца ад абкладаньня. Гэта мерапрыемства, у мэтах пашырэньня плошчы засеву тэхнічнымі культурамі, зьяўляецца магутным вагаром у справе пашырэньня і выкарыстаньня магчымасьцяй па засеву іх калгаснай сыстэмай, а даход ад ужо раней асвоеных плошчаў па тэхнічных культурах прыраўніваецца ў абкладаньні да паловы даходу з 1 га збожжавых культур.

Ня гледзячы на тое, што даход ад сельскай гаспадаркі павялічыўся амаль у 2 разы ў 1932 годзе у параўнаньні з 1930 годам—сума сельгаспадатку ў гэтым годзе не павялічваецца. Гэта сьведчыць аб тым, што наша падатковая палітыка спрыяе росту і разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, яе падняцьцю матэр'яльна-культурнага ўзроўню працоўных мас.

Зусім іншы малюнак мы наглядаем у капіталістычных краінах. У іх падатковая палітыка накіравана на прыгнечаньне і эксплёатацыю шырачэзных працоўных мас. З кожным днем усё падае і падае вытворчасьць сельскай гаспадаркі—адбываецца паглыбленьне агульнага крызісу капіталістычнай сыстэмы,—іх палітыка прыводзіць да абнішчаньня і згаленьня шырачэзныя масы працоўных.

Выключная ўвага ў новым законе аб сельскагаспадарчым падатку зьвернута на пытаньне аб разьвіцьці жывёлагадоўлі, дзе „жывёла ўсіх відаў у калгасах не абкладаецца, ад абкладаньня вызваляецца ўвесь валавы даход таварных калгасных фэрм, уся жывёла, якая знаходзіцца ў асабістым карыстаньні калгасьнікаў". Гэтыя ільготы сьведчаць аб тым, што партыяй створаны ўсе спрыяючыя ўмовы для пасьпяховага вырашэньня праблемы жывёлагадоўлі.

Акрамя вышэйпералічаных ільгот, урадам прадстаўлена права мясцовым органам паменшаць стаўку падатку маламоцным калгасам часткова або зусім вызваляць ад абкладаньня даходы ад неграмаджанай часткі маемасьці асобных калгасьнікаў, маламоцных аднаасобнікаў, асабліва былых чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызан. Аднаасобныя серадняцкія гаспадаркі ў асноўным абкладаюцца па тых-жа стаўках, што і ў мінулым годзе. Кулацкія гаспадаркі абкладаюцца па іх сапраўднай даходнасьці ў індывідуальным парадку.

Закон аб сельскагаспадарчым падатку гэтага году ўсямерна садзейнічае арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў, падняцьцю ўраджайнасьці і таварнасьці калгасаў, разьвіцьцю жывёлагадоўлі і тэхнічных культур, своечасоваму і поўнаму выкананьню вытворчых і загатоўчых плянаў (а плян збожжазагатовак па БССР паменшан на 2 млн. пудоў супроць мінулага году і жывёлазагатовак на 7.100 тон), значнаму палепшаньню вучоту і справаздачнасьці калгасаў і яшчэ большаму разьвіцьцю калгаснага гандлю.

У мэтах разьвіцьця калгаснага гандлю даходы калгасаў ад продажу сельскагаспадарчых прадуктаў праз калгасныя ларкі і рынкі вызваляюцца ад абкладаньня.

Пастанова Саўнаркому і ЦК аб жывёлазагатоўках і савецкім гандлі калгасаў, калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў, значна зьніжаючы плян жывёлазагатовак па калгасам, у калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў (па БССР гэты плян зьніжаецца з 45,1 тыс. тон да 38 тыс. тон) лічыць мэтазгодным прадставіць калгасам і аднаасобнікам, якія акуратна выконваюць цэнтралізаваны плян жывёлазагатовак і загатоўкі іншых відаў, шырокую магчымасьць бесьперашкоднай прадажы буйнай жывёлы, сьвіней, авец, птушак усякіх і мясной прадукцыі сваіх гаспадарак на рынках, базарах і праз калгасныя ларкі. Гэтыя ўмовы пастановы павінны быць шырока скарыстаны калгасамі, калгасьнікамі і працоўнымі аднаасобнікамі для пашырэньня гадоўлі жывёлы ўсіх відаў і парод.

ЦК і Саўнарком у сваіх пастановах забараняе мясцовым органам улады ўводзіць якія-б там ня было абмежаваньні па продажы калгасамі, калгасьнікамі і працоўнымі аднаасобнікамі прадукцыі сваіх гаспадарак і адмяняе ўсякія абмежаваньні па забою жывёлы як для ўласных патрэб, так і для прадажы, выкараняючы такім чынам прыватнікаў і спэкулянтаў-перакупшчыкаў, якія імкнуцца нажыцца на савецкім гандлі.

Клясавы вораг, кулак перш усяго, будзе імкнуцца сарваць зьдзейсьненьне пастановы ЦК і Саўнаркома. Кулак будзе агітаваць (і агітуе) супроць сяўбы, супроць разьвядзеньня кароў, сьвіней, птушак, выкарыстоўваючы асобныя „левацкія“ перагібы ў асобных раёнах і вёсках у мінулым для дыскрэдытацыі апошніх пастаноў ЦК УсеКП(б) і Саўнаркома СССР.

Мы павінны яскрава прадбачыць, што кулак, гандляр, які сёньня агітуе супроць сяўбы, супроць разьвядзеньня кароў, сьвіней і птушак, заўтра будзе імкнуцца стаць спэкулянтам-перакупшчыкам, будзе імкнуцца выкарыстаць для сябе пашырэньне савецкага гандлю.

Выключную ролю ў павышэньні выхаду мясной прадукцыі павінна адыграць трусагадоўля. Трус—самая шматплодная і хутка пасьпяваючая жывёла. На працягу аднаго года трус-самка можа даць некалькі памётаў, у сярэднім па 7—8 трусянят у кожным. Гэтаму важнаму пытаньню пашырэньня выхаду мясной прадукцыі паляўнічыя павінны ўдзяліць максымум увагі. Паляўнічыя, выкарыстоўваючы сваю практыку па разьвядзеньні трусоў, павінны шырока папулярызаваць важнасьць разьвіцьця трусагадоўлі, унядраючы вопыт у масы калгасьнікаў.

Пастанова партыі і ўраду зьяўляецца такім чынам прызывам да ўсёй масы калгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў больш і лепш сеяць, больш разводзіць кароў, сьвіней, трусоў, птушак.

Пастанова партыі і ўраду—магутная зброя ў барацьбе за перамогу першай пяцігодкі, у барацьбе за бясклясавае сацыялістычнае грамадзтва.

Чым больш і лепш калгасы і аднаасобнікі будуць сеяць, тым больш краіна будзе мець хлеба і сыравіны для прамысловасьці, тым больш краіна атрымае прамтавараў, тым хутчэй арганізацыйнагаспадарча ўмацуюцца калгасы, тым хутчэй завершыцца суцэльная калектывізацыя і на яе аснове ліквідацыя кулацтва як клясы.

Чым больш калгасы і аднаасобнікі будуць разводзіць кароў, сьвіней, трусоў, птушак,—а сёньня калгасьнікі і аднаасобнікі будуць гэта рабіць з тым большай энэргіяй, калі яны будуць знаць, што частку свае прадукцыі яны змогуць выкарыстаць для сваіх уласных патрэб і прадажы на рынках і калгасных базарах!

Тым большымі стануць крыніцы рабочага забесьпячэньня, а значыць і ўмовы павышэньня вытворчасьці працы рабочага, тым хутчэй будуць мацнець калгасы, тым больш паскорацца тэмпы ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва.

Павысіць самадзейнасьць мільённых мас калгасьнікаў і аднаасобнікаў, павысіць іх зацікаўленасьць у выніках свае працы і тым паскорыць разьвіцьцё ўсёй народнай гаспадаркі—такі сэнс пастаноў Саўнаркома і ЦК УсеКП(б).

Р. К.

---

# Прасоўваньне ў масы пастаноў ЦК УсеКП(б), ЦК КП(б)Б і СНК—абавязак паляўнічых арганізацый і грамадзкасьці

# ДЗЕНЬ БАЛЬШАВІЦКАГА ДРУКУ

Бальшавіцкі друк—зброя ў руках партыі, агітатар, прапагандыст і арганізатар шырокіх працоўных мас у іх барацьбе за рэалізацыю рэвалюцыйнай тэорыі сваіх вялікіх правадыроў Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. Арганізуючы мільёны рабселькораў нашых газэт і часопісяй, пад кіраўніцтвам сваёй жалезнай партыі бальшавікоў-ленінцаў, старонкі нашага друку вядуць барацьбу з рэшткамі капіталістычных, буржуазных элемэнтаў, як у пляне эканомічна-гаспадарчым, а таксама і ў пляне ідэолёгічным.

5-га мая 1912 г. у б. Пецярбурзе вышаў першы нумар штодзеннай бальшавіцкай газэты „Правда“, а 5-га мая 1914 г. у адзнаку двухгодзьдзя „Правды“ б. Расіі быў праведзены „дзень рабочага друку“. Як вядома, часы сусьветнай імпэрыялістычнай вайны выклікалі за сабой закрыцьцё ўсяго рабочага друку і ўжо толькі ў сувязі з 10-й гадавінай „Правды“ ЦК УсеКП(б) пастанавіў правесьці „всероссийский день печати“. З гэтага часу мы штогод адзначаем, праводзім „дзень друку“, растлумачваем значэньне бальшавіцкага друку ў справе сацыялістычнага будаўніцтва, у барацьбе з недахопамі, з бюракратызмам, валакітай і інш.

У „дзень друку“ бягучага году Краіна Саветаў падводзіць вынікі дасягнутых вялікіх посьпехаў ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва.

Асабліва выдатнай адзнакай 1932 г. зьяўляецца той факт, што зараз, як ніколі раней, узмоцніліся асновы дыктатуры пролетарыяту, што з поўнай выразнасьцю акрэсьліліся пэрспэктывы пабудовы бяскласавага грамадзтва ў краіне саветаў, а гэта вызначае сабой і посьпехі нашага друку. Сымбалем гэтых посьпехаў служыць для нас дваццацігадовы шлях упартай барацьбы за справу рабочае клясы ЦО нашай партыі „Правды“. У барацьбе супроць царскага рэжыму, супроць абшарнікаў і капіталістаў, супроць меншавікоў, меншавізму і іншых здраднікаў рабочае клясы, бальшавіцкі голас—„Правды“ зьбіраў, арганізоўваў і накіроўваў тысячы і мільёны рабочых і сялян для абароны Кастрычніка, для атрыманьня перамогі над зграяй унутранога і міжнароднага капіталізму, якія ў момант грамадзянскай вайны хацелі задушыць маладую краіну саветаў.

Гэраізм нашай эпохі будаўніцтва новага сацыялістычнага грамадзтва, яснасьць пэрспэктыў нашага разьвіцьця сваім велічам захапляюць мастакоў слова, забясьпечваюць далейшае разьвіцьцё сацыяльна-эканамічнай і мастацкай літаратуры, садзейнічаюць стварэньню вялікага мастацтва бальшавізму.

Адваротны малюнак у галіне друку, як і ва ўсіх іншых галінах, мы можам наглядаць у кожнай капіталістычнай краіне, дзе тупая клясавая нянавісьць да пралетарскага камуністычнага друку, да камуністычных газэт, часопісяй і кніжок, што зьвязана з арыштамі, штрафамі, доўгімі годамі турэмных заключэньняў для лепшых сыноў сусьветнага пралетарыяту.

Каля 2 тысяч раённых газэт, каля 2,5 тыс. шматтыражак саўгасных і калгасных газэт, каля 1.700 фабрычна-завадзкіх шматтыражак і 200 тысяч насьценгазэт, красамоўна сьведчаць самі за сябе, ускрываюць масавы характар нашага друку, яго гіганцкае разьвіцьцё за годы рэвалюцыі.



Трусы ў клетцы.

Непараўнаўча вялізарная работа праароблена нашай партыяй праз яе бальшавіцкі друк у напрамку барацьбы за чыстату вучэньня Леніна ў нацыянальнай палітыцы. Да сьвядомага палітычна-грамадзкага жыцьця, да непасрэднага, самаадданага ўдзелу ў будаўніцтве сацыялізму, для барацьбы за перамогу заклікаыы дзесяткі мільёнаў прыгнечаных і прыдаўленых раней нацый царскім рэжымам. Ужо ў мінулым годзе па Саюзе выдавалася літаратура на 68 мовах, а ў гэтым годзе на мовах 83 нацый. Аўладоўваючы вышынямі рэвалюцыйнай культуры, рэвалюцыйнай тэорыі—вывучэньнем марксызму-ленінізму працоўныя шматлікіх нацыянальнасьцяй ад Менску да Сахаліну, ад Паўночнага ледавітага акіяну да Одэсы ствараюць нацыянальную па форме і пралетарскую па зьмесьце культуру і літаратуру. У брацкай сувязі і ўзаемнай дапамозе шматлікіх нацыянальнасьцяй пад кіраўніцтвам адзінай камуністычнай партыі тэрыторыя Савецкага Саюзу і кожнай савецкай рэспублікі ўпрыгожваюцца заваёвамі, якія ня былі дагэтуль вядомы чалавецтву.

Абнядужаная і прыдаўленая двума прэсамі прыгнечаньня нацыянальным і сацыяльным даўней—Беларусь за некалькі год мірнага сацыялістычнага будаўніцтва дасягнула зараз нябачаных посьпехаў у народна гаспадарчым і культурным будаўніцтве. Даволі сказаць, што зараз краіна мае дзесяткі МТС з тысячамі трактароў, БелДРЭС Іы, Гомсельмаш, Магвалакно і рад іншых заводаў-гігантаў, што ўжо зараз амаль кожны з раёнаў мае сваю газэту, а ў буйных саўгасах, калгасах, на фабрыках і заводах выдаюцца некалькі дзесяткаў сваіх шматтыражак, што БССР за годы рэвалюцыі пакрылася густой сеткай вышэйшых і сярэдніх навучальных установ, каб уявіць сабе той вялізарны размах будаўніцтва, вялізарнасьць посьпехаў, якіх дасягнулі працоўныя БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б. у Саюзе і пры падтрымцы ўсіх нацыянальнасьцяй Савецкага Саюзу.

Адзначаючы дзень друку на 15-м годзе Кастрычніцкай рэвалюцыі, нельга не паказаць на значныя дасягненьні нашага паляўнічага друку, нашай часопісі „Паляўнічы Беларусі“, які ідзе ў першых радох па арганізацыі і наладжваньні сацыялістычнай, плянавай паляўнічай гаспадаркі. „Паляўнічы Беларусі“ прарабіў вялікую працу ў барацьбе за выкананьне плянаў загатовак пушніны, у мабілізацыі мас паляўнічых вакол барацьбы за плянавае вядзеньне гаспадаркі, за выкананьне і перавыкананьне плянаў.

Важнейшай задачай бліжэйшага часу для кожнага з раённых таварыстваў, для кожнага паляўнічага павінна будзе зьявіцца работа над павялічэньнем ліку карэспандэнтаў, над наданьнем большай і большай масавасьці друкаванаму слову. Змагаючыся за падваеньне арміі чытачоў і падпісчыкаў часопісі „Паляўнічы Беларусі“, кожнае таварыства ўсямерна павінна падтрымліваць дзейнасьць сваіх насьценгазэт. Дзень бальшавіцкага друку павінен пацягнуць за сабой патраеньне ўвагі да працы насьценгазэт, ільлічовак. Насьценгазэты павінны быць сапраўдным моцным і верным голасам савецкай грамадзкасьці ў радох паляўнічых. Неабходна, каб кожная насьценгазэта зьяўлялася застрэльшчыкам у справе барацьбы за чыстату радоў паляўнічых, супроць кулацкіх і розных іншых клясавых ворагаў, якія прымазаліся да паляўнічых і ўсямерна імкнуцца шкодзіць справе. Пытаньні разгортваньня шырокай масава-растлумачальнай працы ў важнейшыя перыяды паляўнічага сэзону, пытаньні мабілізацыі паляўнічых на выкананьне і перавыкананьне плянаў па забоі дзічыны і зьвера, па загатоўках, трэба паставіць у цэнтр увагі работы кожнай насьценгазэты.

У барацьбе за генэральную лінію партыі, за выкананьне і перавыкананьне плянаў у барацьбе з клясавымі ворагамі—кулакамі, падкулачнікамі і правымі апартуністамі будзе расьці і мацнець наш бальшавіцкі друк.



Трусятнік Віцебскага т-ва паляўнічых. Сям'я белых веліканаў.

# ПАСТАНОВА САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР

## аб мерапрыемствах па разгортваньні паляўнічай гаспадаркі

Для хутчэйшага разгортваньня ахотгаспадаркі і забясьпечаньня найбольшага выхаду прадукцыі пушнога зьвера і дзічыны, Савет народных камісараў пастанаўляе:

1. Прапанаваць Белкахотсаюзу на працягу 1932 г. наступныя мерапрыемствы:

а) дэталёва абсьледваць ня менш 50 проц. існуючых заказьнікаў і замест ліквідаваных, як не адказваючых свайму прызначэньню па натуральных умовах, арганізаваць 15 новых заказьнікаў ляснога тыпу і 12 для бабра;

б) для пераводу на інтэнсыўныя мэтады разьвядзеньня пушнога зьвера арганізаваць зьверагадоўчыя фэрмы на 10 пар бабра, 15 пар выдры, 50 пар енотападобнага сабакі, для чаго ўпаўнаважанаму НК замежнага гандлю разам з Белкахотсаюзам і Беларускай акадэміяй навук распрацаваць і правесьці ў жыцьцё на працягу 1932 году адпаведныя мерапрыемствы ў гэтай галіне;

в) арганізаваць кароткатэрміновыя курсы ня менш, як на 40 раённых работнікаў, якія працуюць у паляўнічых гаспадарках.

2. Для далейшага разьвіцьця Беларускага дзяржаўнага запаведніка, правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) закончыць начатае ў 1931 г. гаспадарчае і жыльлёвае будаўніцтва па запаведніку і біостанцыі, забясьпечыўшы гэтае будаўніцтва капіталаўкладаньнямі ў суме 11.760 руб., а таксама поўнасьцю скончыць абсталяваньне музэю біостанцыі;

б) адзначаючы, што да гэтага часу не праведзена лесаўпарадкаваньне запаведніка, што значна затрымлівае навукова-дасьледчую работу ў ім, прапанаваць Белкахотсаюзу скончыць лесаўпарадкаваньне запаведніка ў 1932 г., вылучыўшы на гэтую мэту 25.313 руб.;

в) поўнасьцю забясьпечыць біостанцыю запаведніка ўсімі патрэбнымі гаспадарчымі і навуковымі прыладамі;

г) разгарнуць досьледы па арганізацыі стацыянарных і закрытых пітомнікаў для прамысловага разьвядзеньня пушнога зьвера пры запаведніку, а таксама правесьці мерапрыемствы па арганізацыі загоннага тыпу пітомнікаў выключна для бабра, як найбольш прыстасаванага і эканамічна каштоўнага зьвера ва ўмовах БССР;

д) разгарнуць падрыхтоўку кадраў для навуковай работы ў запаведніку, для чаго Беларускай акадэміі навук арганізаваць ня менш 6 асьпірантур для падрыхтоўкі 2-х зьвераводаў, 2-х біологоахотаведаў і 2-х біологадзічаведаў;

е) арганізаваць у 1932 г. навуковыя камандыроўкі для вывучэньня пастаноўкі работы ў больш паказальных запаведніках СССР, якія па сваіх натуральных умовах больш падыходзяць да ўмоў БССР.

3. Даручыць упаўнаважанаму НК замежнага гандлю па БССР паставіць перад адпаведнымі саюзнымі органамі пытаньне аб асыгнаваньні неабходных сродкаў на ўтрыманьне апарату запаведніка і біостанцыі.

Старшыня СНК БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік спраў НК і ЭКАНА **Кандыбовіч.**

# ЗЬНІШЧАЕЦЦА ДЗІЧ І РЫБА

*(Лагойскі раён)*

У вёсках Стайкі, Янушкаўскага сельсавету і Рудня, Калачоўскага с.-с. пастухі водзяць з сабой сабак, якія зьнішчаюць гнёзды качак, слонак, рабчыкаў, цецярукоў і глушцоў. Калі мне прыходзілася гаварыць аб недазволе пускаць сабак, то пастухі бралі іх на аборкі, але пасьля ізноў пускалі іх хадзіць свабодна.

Трэба, каб лесирамгасы пры заключэньні ўмоў на пашу ўносілі ў дагаворы пункт аб недазволе водзіць за сабой сабак.

Другое, на што трэба нам зьвярнуць вялікую ўвагу, гэта на зьнішчэньне рыбы, асабліва ў пэрыяд нерасту. Па нашаму раёну на гэта не зварачвалася да гэтуль увагі. Усе, хто толькі не ляніўся, у час нерасту ішлі і лавілі рыбу. Нават справа з гэтым дайшла да такога зьявішча. Па рэчцы „Бачылаўка", якая праходзіць паміж Кораньскім і Янушкаўскім сельсаветамі, жыхары вёсак Пуцілава і Стайкі кожны проціў свайго шнура сенажаці нарабілі перагародак з дзюркамі, процiў якіх стаўляюць бучы і ідучая на нераст уверх рыба вылаўлівалася такім спосабам. Калі гэтак будзе працягвацца справа і далей, дык хутка рыбы зусім ня стане. Ходзяць упартыя слухі, што паляўнічыя в. Стаек кожную вясну забіваюць па некалькі штук глушцоў. Трэба гэтыя слухі праверыць і калі яны пацьвердзяцца, то вінаватых прыцягнуць да суровай адказнасьці. Трэба, каб раённае праўленьне не спала, а што-небудзь рабіла, а то ў яго пад носам крамнік **Карнашэўскі** прапіў 700 руб. грошай. Ён-бы прапіў і болей, але ўжо ўсе сябры саюзу сталі крычаць, што крамнік, замест сваёй крамы, знаходзіцца пад прылаўкам піўной. Наша раённае праўленьне ніколі ня зьбіраецца, ніякіх пытаньняў не абгаварвае. Праца ідзе неяк самацёкам. Масавай працы ніякай не вядзецца. Нават на падпіску журнала „Паляўнічы Беларусі" грошай ня зьбіралі, за выключэньнем ячэйкі Калачоўскага сельсавету, дзе падпіска праведзена на 90 проц.

**Я. Сапрык.**

# ФЭРМА СРЭБРЫСТА-ЧОРНЫХ ЛІСАЎ

Пры 2-м зьверагадоўчым інстытуце (Маскоўская вобласьць) існуе фэрма срэбрыста-чорных лісаў.

Стада срэбрыста-чорных лісаў складаецца з 485 самак і 162 самцоў, гэта значыць, што на 1 самца прыходзіцца 3 самкі.

У гэтым гаспадарчым годзе фэрма лісаў перайшла ад монагамнага спосабу разьвядзеньня срэбрыста-чорных лісаў да паліганага.

Гэты пераход вытвараецца з мэтай атрыманьня большай эканамічнай выгады ў зьверагадоўлі, таму што племянное стада самцоў памяншаецца, а павялічаецца стада самак. Задача паліганага разьвядзеньня па гону ў 2-м зьверагадоўчым саўгасе на першы раз выканана поўнасьцю.

З 485 самак пакрыта самцамі 461, што складае 95 проц., а плянавае заданьне па фэрме было ў 90 проц. Такім чынам, заданьне па гону фэрмай выканана на 105 проц. Племянное стада ў параўнаньні з мінулым годам у наступным годзе павялічылася на 94 проц. У мінулым годзе стада срэбрыста-чорных лісаў складалася з 249 самак і 212 самцоў, гэта значыць, што на 1 самца прыходзілася 1 самка.

Патрэбна адзначыць, што з пераходам да паліганага разьвядзеньня лісаў у часе гона, праца работнікаў фэрмы стала больш складанай і ўзрасла ў некалькі разоў (перапіска самцоў, вучот і самыя найлепшыя нагляданьні за самкамі).

**У сучасны момант праходзіць шчаненьне лісаў.**

Наколькі пасьпяхова прайшло спарваньне, настолькі нездавальняюча праходзіць шчаненьне.

З 461 пакрытай самкі па фэрме на 25 красавіка добра радзіўшых—250 лісаў, абортыраваўшых—19, засталося халастымі—66 самак і няўдала ашчаніўшыхся 25 самак.

(Шчанят зацягалі, альбо заелі). Чакаецца прыплод ад апошніх. Толькі што прыведзеныя лічбы ходу шчаненьня гавораць аб нездавальняючым становішчы.

Што было прычынай гэтага нездавальняючага становішча сказаць цяжка, але ў усякім разе патрэбна адзначыць, што гэтыя нездавальняючыя рэзультаты атрыманы дзякуючы недастатковым ведам мэтодыкі паліганага размнажэньня, недасканальнай тэхніцы, а таксама ня зусім здавальняючаму складу кармоў.



Кормяць лісянят.

Кіраўнікі фэрмы адзначаюць, што ў рацыён кармоў уваходзіць у значнай колькасьці рыба, чаго раней ня было.

Наколькі гэта справядліва—невядома таму, што гэтае пытаньне яшчэ зусім ня вывучана і стаіць у парадку вырашэньня нашымі навукова-дасьледчымі ўстановамі, як і шэраг іншых праблем зьверагадоўлі.

**А. А. Враб'ёў.**



Маладыя лісы каля кармушак.



# Чачэрскае райтаварыства паляўнічых не клапоціцца пра паляўнічую гаспадарку

Штогод у час веснавога разьліву ракі **Сожу** на некалькі кілёмэтраў, на незатопленых грыўках па сенажацях знаходзяць сабе ратунак шмат зьвяроў, асабліва зайцы. Вядома, там, дзе органы паляўнічай каапэрацыі на вышыні свайго становішча, у гэтыя часы арганізоўваюцца паляўнічыя брыгады для аказаньня дапамогі зайцам. Чачэрскае-ж таварыства паляўнічых зусім не клапоціцца аб паляўнічай гаспадарцы. Ячэйкамі раёну гэта таварыства ня кірує і яны (ячэйкі) да паляўнічай гаспадаркі адносяцца нікольki ня лепш, чым само таварыства.

У прыватнасьці **Шапатовіцкая** ячэйка паляўнічых зусім не зьвярнула ўвагі на дапамогу патопленым зайцам і нават на тых браканьераў, якія замест таго, каб дапамагчы зайцам пачалі глуміць іх. А такія факты былі. 10 красавіка г. г. гр. вёскі Сябровіч **Дзерынаў** забіў на разьліве зайца, 11 красавіка трое гр-н в. Шапатовіч, **Драбышэўскі М., Драбышэўскі П. і Драбышэўскі Р.** таксама здабылі зайца, 15 красавіка **Драбышэўскі Я.** забіў на грыўцы зайца. Такіх выпадкаў было шмат. А ячэйкі паляўнічых бязьдзейнічаюць, замест таго, каб павесьці работу сярод насельніцтва за ахову паляўнічай гаспадаркі і заядлых браканьераў прыцягнуць да адказнасьці.

**Ц. Караткевіч.**

# У БОЙ ЗА КРАТА

**Камсамол павінен стаць на чале паходу моладзі за кратом. Гэтым камсамол можа і павінен дапамагчы выкананьню экспартнага пляну**

Падагуленыя вынікі нарыхтоўкі пушніны за красавік месяц далі толькі 56 проц. выкананьня месячнага пляну і гэта стварае яўную пагрозу зрыву выкананьня ўсяго экспартнага пляну за 2-гі квартал.

Рашаючую ролю ў гэтым прарыве адыграла з рук вон слабая нарыхтоўка крата—таго віду пушніны, які займае выключнае месца ў пляне 2-га кварталу (амаль 75 проц.). За красавік крата сабрана ледзь 9 проц. заплянаванай месячнай колькасьці.

Чаму гэта здарылася? Таму, што наша моладзь, камсамольскія арганізацыі, нашы піянэратрады, нашы школы, якія пры належнай увазе да гэтай важнейшай справы з лёгкасьцю, нават у часе забавы і адпачынку, маглі-б даць за кожны дзень дзесяткі тысяч крата, не апраўдалі тых надзей, якія ўскладала на іх экспартная нарыхтоўчая арганізацыя Белпушніна.

Цікава супаставіць. Зусім ня так даўно шырокія масы арганізаванага маладняка чула адгукнуліся на заклік Белпушніны і прынялі на сябе цьвёрдыя абавязацельствы: здаць такую колькасьць кратовых скурак, якая павінна была забясьпечыць ня толькі выкананьне, але і перавыкананьне пляну па крату.

Так было на словах і на паперы.

А на справе... 9 проц. заданьня па крату.

Усё гэта гаворыць аб тым, што ясная і канкрэтная дырэктыва ЦК ЛКСМБ раённым камсамольскім арганізацыям аб актывізацыі калгаснай і вучнёўскай моладзі на барацьбу за выкананьне экспартнага пляну, на зусім даступны і пасільны ім адлоў крата на мясцох не ператворана ў жыцьцё.

Гэта гаворыць яшчэ аб тым, што райкомы ЛКСМБ упарта ігнаруюць адказьнейшую палітычную задачу і важнейшую галіну нашага народна-гаспадарчага пляну.

А час ідзе і кожны прапушчаны вясеньні дзень беззваротна ўносіць з сабою страту для экспарту дзесяткі тысяч высокакаштоўных скурак раньняга крата і тысячы рублёў валюты.

Пара прачнуцца! Трэба райкомам ЛКСМБ безадкладна пабудзіць вучнёўства, піянэратрады і калгасную моладзь дзейна ўзяцца за адлоў крата. З боку камсамольскіх арганізацый патрэбны неадкладныя канкрэтныя мерапрыемствы. Трэба, каб зараз-жа паўсюды былі наладжаны арганізаваныя выхады ў поле і каб гэта мерапрыемства не засталося аднаразовай кампаніяй, а моцна ўкаранілася ў штодзенную практыку. Гэта ўкараненьне трэба замацаваць на базе сацспаборніцтва паміж паасобнымі групамі і шырока выкарыстаць для ліквідацыі прарыву ў выкананьні экспартнага пляну 1-га і пасьледуючага кварталаў.

Практычная дапамога і кансультацыя на мясцох заўсёды можа быць забясьпечана з боку мясцовых нарыхтоўчых арганізацый, як Белпушніна, таварыствы паляўнічых, райсаюзы, а ў часе цяперашняга 2-х тыднёвіка штурму вясеньніх відаў нарыхтовак яшчэ і з боку спэцыяльна пасланых у раёны адказных работнікаў цэнтральных нарыхтоўчых арганізацый.

Надаючы вялізарнае значэньне нарыхтоўцы крата, як важнейшаму і пераважнаму віду пушніны ў агульным пляне пушмехнарыхтовак, асабліва 2-га кварталу, Белпушніна вылучыла спэцыяльны заахвочваючы фонд у тысячу рублёў. З гэтага фонду тым райкомам ЛКСМБ, якія ўдалай арганізацыяй масавага адлову крата ў раёне дадуць найлепшыя вынікі, будуць выдадзены тры прэміі: у 500 руб., 300 руб. і 200 руб.

**Дугін.**



# ТРУСАГАДОЎЛЯ Ў КАЛГАСАХ БЕЛАРУСІ

Пастановай партыі і ўраду дадзены цэлы рад канкрэтных намётак па фарсаваньні мерапрыемстваў па ліквідацыі мяснога крызісу. У інтарэсах хутчэйшага вырашэньня жывёлагадоўчай праблемы партыя і ўрад патрабуюць хуткага разьвіцьця скарасьпелых галін сацыялістычнай жывёлагадоўлі. У гэтай баявой задачы, побач з іншымі галінамі, як сьвінагадоўля і птушкагадоўля, трусагадоўля павінна заняць адно з відных месц; ёй неабходна ўдзяліць самую сур'ёзную ўвагу. Трус, акрамя мяса, дае яшчэ поўсьць-ліньку, пух і шкурку, адгэтуль вывад, што трусагадоўля ня менш карысна, чым другія віды жывёлы.

Па пляне разьвіцьця трусагадоўлі ў калгасах БССР да 1932 г. павінна быць арганізавана 240 трусаводных фэрм з 60 тыс. галоў трусоў. Акрамя калгасных фэрм, трусагадоўляй займаюцца Белпушніна, Птушкатрусаводтрэст і Белкахотсаюз. Умовы для разьвіцьця трусагадоўлі бязумоўна ёсьць у БССР. Трус жывёла вельмі непатрабавальная да корму, ён паядае ўсялякія расьліны, якія не паядаюцца іншымі жывёламі, як, напрыклад, ён вельмі добра паядае палын, які зьяўляецца для труса дэзынфэкуючым сродкам. Праўда, што і трусу патрэбны кармы добрай якасьці, асабліва для маладняка і самкі як у час кармленьня трусянят, так і ў час котнасьці яе. Увесь кармовы сутачны рацыён труса складаецца наступным парадкам: грубых кармоў сена—100 *гр*, аўса—50—70 *гр* і караньплодаў—100—120 грам.

Грубых кармоў можна загатовіць з розных сарнякоў, а таксама і ветачнага сена лісьцьвенных парод дрэў. А таксама трусы ахвотна паядаюць зімою лазу, галіны асіны і інш., што бязумоўна палягчае загатаўляць корм для трусоў.

Разьвіцьцё трусагадоўлі неабходна паставіць так, каб, акрамя калгасных фэрм, саўгасаў і другіх арганізацый, якія спэцыяльна займаюцца трусагадоўляй, унядрыць труса ў кожны калгас, а таксама, каб і кожны калгасьнік меў хаця невялікую колькасьць трусоў, прыблізна 3—4 самкі і 1 самца.

Трус ужываецца ва ўсіх раёнах БССР, марозаў ён не баіцца, яго можна трымаць у халодных памяшканьнях абы толькі ня было скразьнякоў і сырасьці, якіх трус баіцца.

Шырока разьвіўшы трусагадоўлю, унядрыўшы яе ў кожны калгас, такім чынам мы дапаможам скораму вырашэньню мясной праблемы. Праўда, ускласьці надзею на труса па вырашэньні мясной праблемы нельга, але паскорыць гэтае вырашэньне праз трусагадоўлю можна і неабходна. Трус зьяўляецца жывёлінай пладавітай, так што пры самай мінімальнай затраце працы і ўвагі трусу мы можам атрымаць ад яго ў год ня менш 3 акролаў па 4 штукі ў адзін акрол, а ўсяго 12 штук у год трусоў*).

У злучку (спарваньне) трусы дапускаюцца беспародныя ад 6 месяцаў, а пародзістыя ад 8—10 месяцаў, так што самачкі першага акролу таксама ў канцы году могуць даць акрол.

**Д. Крэва.**

*) Сплош і радам адна самка прыносіць у год да 35 штук трусянят. Рэд.

# Прыгарадны саўгас імя Дзяржынскага арганізаваў трусагадоўчую фэрму

## Практыку дзяржынцаў—ва ўсе прыгарадныя калгасы і саўгасы БССР

Прыгарадныя саўгасы і калгасы могуць і павінны адыграць вялізарную ролю ў разгортваньні трусагадоўлі і забясьпечыць працоўных гораду добраякасным спажыўным мясам труса і разам з гэтым павялічыць сырцовую базу футраскуранай прамысловасьці.

Дагэтуль сярод многіх гаспадарнікаў існуе думка, што трусагадоўля — нярэнтабельная справа. Але ці так гэта ў сапраўднасьці? Для прыкладу возьмем гаспадарку, якая мае 100 трусаматак і 10—12 трусоў-вытворнікаў. Для такой колькасьці дарослых трусоў на працягу году патрэбна кармоў: моцных (аўса, высеўак і іншых)—27—30 *цнт*, грубых (сена, галінкі дрэў, лісьця)—35—36 *цнт*, караньплодаў (буракоў, бручкі, морквы)—40 *цнт*.



Віцебскія паляўнічыя сеюць авёс для трусоў

Ад кожнай маткі мінімальна можна атрымаць на працягу году ня менш 12 штук маладняка. Значыць 100 трусаматак на працягу году могуць даць ня менш 1.200 шт. таварнага маладняка. Для адкорму яго на працягу 5—6 месяцаў пасьля ад'ёму ад матак патрэбна 90 *цнт* моцных кармоў, 140 грубых, 140 караньплодаў і 3 *цнт* малака, якое даецца толькі слабым трусам. Прычым, у летні час як дарослым, так і маладняку караньплоды і сена можна з посьпехам замяніць сьвежай травой і батвой ад гародніны. Пэўную колькасьць кармоў можна з'эканоміць яшчэ скарыстаньнем розных адкідаў гаспадаркі, якія з посьпехам могуць пайсьці на корм трусам.

Для абслугоўваньня такой трусагадоўчай гаспадаркі (фэрмы) патрэбен адзін пастаянны рабочы, практык-трусавод і 1—2 падлеткі для дапамогі ў часе масавых акролаў.

Такая трусагадоўчая фэрма дасьць мінімальна 2.400 *кг* мяса; 1.200 скурак і 10—12 *кг* пухавоўны. Мясам гэтых трусоў можна задаволіць патрэбы 32—35 чалавек на працягу ўсяго году з разьлікам па 6 *кг* у месяц на асобу.

Валавы прыбытак ад трусагадоўчай фэрмы дасягне 7.200—7.500 руб., а выдатак—6.000 руб., з іх на кармы 1.785 руб., будынкі — 2.125 руб. і зарплату—2.000 руб. Адсюль чысты прыбытак будзе 1.200—1.500 руб. (лічбы акруглены).

Выходзячы з гэтых меркаваньняў, прыгародны саўгас імя Дзяржынскага, Віцебскага раёну, прыступіў да арганізацыі трусагадоўчай фэрмы. У суседнім саўгасе „Новы шлях“ (які не жадаў займацца трусагадоўляй) набылі 111 трусоў, з якіх 93 шт. трусаматак. Трусы былі куплены ў сярэдзіне красавіка. Усе яны былі вельмі худыя, змораныя, частка іх была хворая. Усё гэта ў выніку дрэннага догляду і нездавальняючага карміленьня.

За кароткі тэрмін (тры тыдні) трусы настолькі зьмяніліся, што дырэктар саўгасу „Новы шлях“, дзе яны раней былі, нават не пазнаў іх. Зараз трусы маюць добры выгляд, сярэднюю сытасьць і зусім не хварэюць. За увесь час ня было ніводнага выпадку падзяжу. Тлумачыцца гэта добрым іх утрыманьнем, правільным доглядам і кармленьнем.

Разам з трусамі было куплена 29 шасьцімясцовых клетак на 174 штукі.



Сям'я „шаншылы“. Фэрма Віцеб. т-ва паляўнічых.

Клеткі, а таксама і дробны інвэнтар (паілкі і кармушкі) былі добра прадэзынфэкаваны і пабелены вапнай. Клеткі знаходзяцца на вольным паветры ў садзе. Кормяць трусоў па нормах, кожнаму трусу даецца штодзенна 60—70 г аўса, 80 г сена, 70 г караньплодаў. Падсосным маткам даюць па 20—30 г малака.

Даглядае трусоў аматар-трусавод тав. Рудзінт, які мае ўжо шматгадовую практыку. Тав. Рудзінт абслугоўвае 113 клетак бяз усякай дапамогі. Ён заяўляе, што нікому не дазволіць даглядаць трусоў, пакуль не прывядзе пагалоўе ў належны выгляд. Зараз у трусятніку праводзіцца масавая злучка. Дзьве маткі ўжо далі першы акрол па 7 шт. кожная.

Вопыт арганізацыі трусагадоўлі ў саўгасе імя Дзяржынскага трэба перанесьці і ва ўсе іншыя прыгарадныя саўгасы і калгасы.

Кожны саўгас або калгас, які мае малочную фэрму, гароды з посьпехам без вялікіх лішніх затрат можа гадаваць пры гэтай фэрме трусоў як для сваіх патрэб, так і для продажу.

„З—да“.

## Швэйнікі ўключыліся ў барацьбу за трусячае мяса

Пры ЦП саюзу швэйнікаў Беларусі адбылася нарада работнікаў сацыяльна-бытавых сэктароў фабкомаў швэйных фабрык, ЗРК і прафактыву па пытаньні аб арганізацыі трусагадоўчых гаспадарак.

Нарада прызнала, што разьвіцьцё трусагадоўлі зьяўляецца аднэй з важнейшых крыніц для палепшаньня снабжэньня рабочых мяснымі прадуктамі.

Прыняўшы выклік маскоўскага заводу „Серп і молат“, нарада абавязалася арганізаваць трусагадоўчыя пункты: пры ЗРК фабрыкі „Кастрычнік“—на 50 матак, сталоўцы фабрыкі—10, ЗРК фабрыкі імя Крупскай—30 і сталоўцы—10, пры сталоўках фабрыкі імя „1 мая“—на 10 матак, імя 8 сакавіка—10.

Прыгарадныя гаспадаркі і сталоўкі заключаюць паміж сабой сацдагавары на лепшае разьвядзеньне трусагадоўлі.

Нарада зьвярнулася з адозвай да ўсіх швэйных фабрык, прыгарадных гаспадарак, ЗРК швэйнай прамысловасьці ўключыцца ў барацьбу за мабілізацыю дадатковых мясных рэсурсаў з тым, каб, апрача Менску, не пазьней 1 ліпеня арганізаваць у Віцебску, Бабруйску, Магілеве трусагадоўчыя гаспадаркі ня менш, як на 205 матак.



# Да арганізацыі цэнтральнай станцыі па трусагадоўлі

Пастанова калегіі НКЗ СССР ад 9-XII—31 году аб мерапрыемствах па разгортваньні сэктару жывёлагадоўлі ў парадку выкананьня адозвы ЦК УсеКП(б) і Саўнаркому СССР ад 30-VII—31 году, зварачвае асаблівую ўвагу на вузлавыя пытаньні жывёлагадоўлі, а таксама на мерапрыемствы пасьпяховага вырашэньня праблемы кадраў, адначасна вылучае на асобнае месца разгортваньне сацыялістычнае трусагадоўлі.

Улічваючы вялікую неабходнасьць у кадрах па ўсіх галінах нашай гаспадаркі, у тым ліку і па зьверагадоўлі, трусагадоўлі і паляўнічай гаспадарцы, пры Саюзпушніне Наркомземгандлю арганізаваны на базе 2-га зьвераводчага саўгасу Інстытут Пушнога Зьвераводзтва, які разгарнуў сваё будаўніцтва ў 19 кілёмэтрах ад Масквы.

Пры 2-м Маскоўскім зьверасаўгасе арганізавана Цэнтральная навукова-дасьледчая станцыя па трусагадоўлі, якая ставіць перад сабой мэту вазглавіць навукова-дасьледчую работу па трусагадоўлі, паставіць пытаньні марксыцка-мэтадалёгічнага і мэтадычнага парадку на належную вышыню ў вырашэньні асноўных праблем, што, бязумоўна, неабходна для сацыялістычнай трусагадоўлі.

Асноўныя тэмы работ станцыі зьвязаны з пытаньнямі генетыкі і селекцыі, кармленьнем і вэтэрынарыяй.

Перад гэнэтыкай і селекцыяй стаяць такія важныя задачы, як вырашчваньне новых парод труса, па магчымасьці максымальна задавальняючага запатрабаваньням мехавой прамысловасьці і ўмовам разьвядзеньня ў нашай гаспадарцы, паляпшэньне існуючых плянавых парод, распрацоўцы навуковых асноў селекцыі і племяннной справы ў саўгасах і калгасах і г. д.

Перад кармленьнем стаяць важнейшыя задачы ў галіне распрацоўкі пытаньняў кармленьня падсосных





і цяжарных матак, кармленьне маладняка ў розныя пэрыяды яго жыцьця, распрацоўка норм ужываемых кармоў, тэхніка кармленьня і г. д.

Перад вэтэрынарыяй стаіць рад задач па пытаньнях скурна-паразітарных захворваньняў, роля глістнага фактара і рад інш.

Усе пастаўленыя задачы павінны будуць распрацоўвацца ў непасрэднай сувязі з самай гаспадаркай. Рабочы плян станцыі прадугледжвае вырашэньне ўсіх пастаўленых пытаньняў у самы кароткі тэрмін.

Некаторыя з важнейшых пытаньняў будуць вырашаны ў гэтым 1932 годзе і з пачатку новага году будуць ужыты ў гаспадарцы.

Акрамя навукова-дасьледчых мэт, станцыя ставіць перад сабой задачу асваеньня сусьветнага і савецкага вопыту, яго крытычнай перапрацоўкі і адпаведнай рэалізацыі яго ў радзе артыкулаў і напісаньні адпаведных кніг.

Арганізацыя станцыі пры 2-м зьверагадоўчым саўгасе, дзе ёсьць навукова-вучэбна-вытворчы камбінат, ставіць перад станцыяй асобныя задачы.

Станцыя павінна ўвайсьці ў сыстэму камбінату, як непадзельная яго частка, якая параўнаўча з другімі яго часткамі будзе ўтвараць сацыялістычную форму непадзельнага адзінства навукі, вытворчасьці і падрыхтоўкі кадраў.

А. А. Вераб'ёў.

**Мяса труса смачней за курынае**

**Гадуйце трусоў!**

# Катлеты з рабца

Даўно я ня быў у свайго таварыша Паўлюка Пракаповіча, а тут неяк да яго справа зьявілася. Рашыў схадзіць пасьля службы. Заходжу ў двор, гляджу Паўлюк на дварэ з закасаванымі рукавамі белай сарочкі нешт робіць каля дашчанай маленькай пунькі. Сонца так паліць, што і карак і твар Паўлюка зрабіліся нейкімі бронзавымі, наліліся крывёй так, што, здаецца, каб калнуў іголкай, дык кроў фантанам так і забіла-б уверх. Падыходжу да яго. Паўлюк выпусьціў вялізарны сталовы нож з рук і павярнуў да мяне галаву. Вясёлая ўсьмешка так і загуляла на яго твары.

— Ну, заходзь, заходзь!—зьвярнуўся ён да мяне.—што гэта не паказваўся цэлы год?

Я моўчкі сеў на слончык.

— Што гэта ты сумны нейкі!

— Так...—адказаў я.

— Эх! І чудак ты! Заўсёды ты чудак такі, як я ведаю. На самай справе!..

— От табе і на!—падумаў я.—Я прышоў да яго ў госьці, а ён лаецца!—І хацелася мне зараз-жа ціханька падняцца і „пацісnуць" дахаты.—„Згары ты з сваёй ласкай!"

Я апусьціў галаву ўніз, задумаўся і пачаў палкай вадзіць па зямлі перад сабой. Паўлюк падышоў да мяне, хлопнуў рукой па плячы і сказаў:

— Ай, яй! Ну і чалавек ты, каб ты здох! Ходзіш от апусьціўшы нос, бадзяешся, як няпрытомны ў задуменьні... Гэта-ж падумаць, столькі часу марнуеш пасьля службы...

Я маўчаў і нават не паглядзеў на яго.

— Ну чаго ты маўчыш? Чаго ты маўчыш, як пень?—крыкнуў ён ужо нібы ў злосьці.—Чорт ведае! От задумаўся?.. Чаму мне некалі думаць і я вясёлы?..

Я ўсё сядзеў, апусьціўшы галаву на слончыку, моўчкі, а паток слоў Паўлюка ліўся на маю галаву. Урэшце мне стала так абідна, такая злосьць узяла, што я кінуў вадзіць палкай па зямлі, ціханька падняўся з слончыка і, не паглядзеўшы нават на Паўлюка, хацеў ісьці.

— Ты куды гэта хочаш уцячы, куды!—крыкнуў Паўлюк, відаць зразумеўшы, што мне не падабалася яго гаворка.—Стой! Стой, я табе кажу! Ну, не, не!—больш ня буду лаяцца, крычаць. Ня ўходзь дарагі! Ня ўходзь! Што я абразіў, агарчыў цябе? Ну, ладна—пачакай, пасядзі тут, я выпраўлю сваю памылку!

Паўлюк падышоў да мяне, узяў сваімі мядзьведжымі лапамі мяне за плечы і зноў пасадзіў на месца, а сам узяўся за тую-ж работу, рэзаньне травы і рознага гальля, але рабіў гэта ўжо куды шпарчэйшымі тэмпамі, чым раней. Відаць, каб мяне задобрыць, ён пачаў зноў гутарку.

— Ну, а як паляваньне ў цябе?

— Ат, і не хадзіў,—працадзіў я.

— Ну, от які? А я дык настраляў дзічыны... рабцоў...

Я падняў галаву і зьдзіўлена паглядзеў на Паўлюка.

— Як... рабцоў? Зараз-жа на іх не палююць! Зараз-жа толькі на слонак ды качураў палююць!

— А я, от які чалавек!—адказаў Паўлюк.—Адкрыты, праўдзівы я чалавек. Заняўся браканьерствам, настраляў рабцоў і прызнаюся табе. От, што хочаш цяпер, тое і рабі, хочаш напішы ў саюз паляўнічых аб выключэньні,—зусім сур'ёзна адказаў Паўлюк.

Я глядзеў на яго, як баран на новыя вароты. Папраўдзе сказаць у галаве маёй круціліся розныя



думкі. А можа і праўда чалавек звар'яцеў, ды зрабіўся браканьерам? Паўлюк за гэты час скончыў сячы траву, разьмяшаў яе ў карытцы з мукой, накрыў, каб пастаяла, астыла і вымыў рукі.

Ну, зараз хадзем у хату. Я цябе пачастую рабцавымі катлетамі.

Мы прышлі ў пакой. З гораду вярнулася жонка Паўлюка, такая акуратная блёндынка. Дасталі абед з печы. Па хаце панёсься вельмі прыемны пах смажанага мяса, які раздражаў мае ўмоўныя рэфлексы, выклікаў сьліну. Хутка перада мной зьявілася талерка, а на ёй цэлая куча белых і вельмі сочных, смачных і пахучых катлет.

— От, натка паеш... і што ты тады скажаш? Гэта рабцавы катлеты. Хэ-хэ-хэ!—сказаў Паўлюк, міргаючы правым вокам на жонку.

Я і не агледзеўся, як талерка стала пустая. Катлеты самі, здаецца, лезьлі ў рот і таялі, літаральна таялі там.

— Ну, як?—запытаўся Паўлюк.

— Можа яшчэ падкласьці,—дадала яго жонка.

— Добрая рэч! Добрая!—адказаў я.—Дзякую, больш не магу,—адказаў я, хаця і ня зусім казаў праўду. Пасьля гэтага былі яшчэ розныя закускі: кісель з журавін і па шклянцы кофэ.

Калі мы скончылі абед, я ўжо страціў сваю стому, прапала задуменнасьць і мне неяк весела стала.

— Добрыя катлеты!—сказаў я яшчэ раз.—Ах якія добрыя! Але што мне зараз з табой рабіць. Я, як сумленны, савецкі паляўнічы, будаўнік сацыялістычнай паляўнічай гаспадаркі павінен быў-бы заявіць аб тваім браканьерстве, але-ж... я і сам еў тваіх рабцоў...



— Ты еў рабцоў?—раптам ашарашыў мяне Паўлюк.—Ты звар'яцеў!.. Глядзі, Тацяна, сумленнае слова ён звар'яцеў!..

— А што я еў?—запытаўся я, адчуваючы, як зачырванеўся мой твар.

— Ты еў... Ты еў... еў... што ён еў, Тацяна?—запытаўся з усьмешкай Паўлюк і зьвярнуўся да мяне.—Ты запытайся ў яе, што ты еў!..

— Што я еў, Тацяна сьвет... сьвет... Іванаўна?

— Вы елі.. елі... труса.

— Труса!—зьдзівіўся я.—Адкуль труса? Якога труса! Што вы, Тацьяна... Ды хіба трус бывае такі смачны? Гэта-ж заяц, і то не такі... з буракамі...

— Ідзі, чудак ты гэткі, я табе пакажу, што ты еў,—сказаў Паўлюк і, узяўшы мяне за руку, пацягнуў некуды на двор.

Мы падышлі да той самай пунькі. Паўлюк сказаў:

— Вазьмі-ка там тую сечанку, траву, ды хадзі сюды!

Я паслухаўся. Паўлюк падвёў мяне да нейкай клеткі, узяў за галаву сваімі моцнымі рукамі, прыгнуў да зямлі і сказаў:

— От, глядзі, што ты еў! Вунь яны!.. Вунь!..

У загончыку сядзелі пара блакітных венскіх трусоў.

— Але ты іх ня еў!—сказаў хітра зноў Паўлюк.

Ну, вядома, ня еў, калі яны...—хацеў я гаварыць але Паўлюк перабіў.

— Гэта зытворцы. Ты ведаеш, я узяў пад кантракцыю ад саюзу месяцы чатыры таму пару гэтых трусоў, а цяпер у нас ужо кожны дзень на абед хапае белага трусінага мяса... Ды кантрактацыю выканаў...—Паўлюк памаўчаў.—А хутка буду і прадаваць прыплод.

Я стаяў і зьдзіўлена глядзеў на Паўлюка.—Як гэта хутка ўсё адбылося.

— А ты, от вазьмі парачку ад мяне,—многа з цябе не вазьму, па-таварыску!—ды разьвядзі ў сябе!..

Зараз я таксама абедаю катлетамі з „рабца"...

**М. Цэлеш.**

# Трусоў загналі ў балота

**Менскае т-ва паляўнічых панесла 12.000 руб. страты. Да суровай адказнасьці тых, хто пахаваў 900 трусоў**

Пачнём з таго, што некаторыя людзі бяруцца за справу і, часам, справу досыць адказную, ня ўлічваючы, якую для гэтага патрэбна правесьці падрыхтоўку папярэднюю, што можа быць у выніку кожнай работы. Гэтыя людзі ня ўдумліваюцца у тое, якія ўмовы неабходны для кожнай задуманай справы. Яскрава сьцьвярджае і ілюструе наступнае: некалькі год таму назад пры Менскім гарадзкім таварыстве паляўнічых арганізавалася невялікая трусаводная гаспадарка.

Спачатку гаспадарка была зусім нязначная, нават мала хто аб ёй ведаў, але дзякуючы таму, што гаспадарка знаходзілася ў досыць добрым месцы, у добрых умовах, яна шпарка разьвівалася, расла, давала значную колькасьць усемагчымай прадукцыі для збыту.

У мінулым годзе ўвесну вучастак зямлі, на якім знаходзілася гаспадарка, неабходна было скарыстаць на іншыя мэты, на аснове чаго Менскім гарсаветам было дадзена распараджэньне перасяліць трусаводную гаспадарку ў найкарацейшы тэрмін.

Працаўнікі т-ва, замест дзелавога вырашэньня, куды перасяліць гаспадарку, падаліся ў бязмэтныя і нават і бязгрунтоўныя развážаньні. А на колькі гэта так, гаворыць тое, што месца для **трусаводнай гаспадаркі** выбралі недалёка ад станцыі Койданава на... тарфяным балоце.

Трусы гэтаму, вядома, зусім не абрадваліся, але і пратэставаць не маглі супроць чалавечага глупства. Праз некалькі дзён „дзелавое вырашэньне“ было праведзена ў жыцьцё. Трусоў пасаджалі ў вагоны і павезьлі ў балота.

Вынік гэтай галавацяпскай работы наступіў вельмі хутка. Неўзабаве трусы пачалі хварэць насморкам, пухнуць, на целе трусоў зьявіліся балячкі. І зноў кіраўнікі занепакоіліся:—„што-ж рабіць? Як выратаваць трусоў?“ А хвароба рабіла сваю справу. Трусы дохлі адзін за адным, дохлі, як кажуць, пачкамі. Па падлікам, загінула 900 трусоў, а 250, як незьлячымыя, перададзена Пастэраўскаму інстытуту. Усё разам узятае прынесла Менскаму гарадзкому таварыству паляўнічых страту у 12 тыс. рублёў.

Такія факты не павінны прайсьці міма адпаведных арганізацый, а віноўнікаў трэба прыцягнуць да суровай адказнасьці, бо справа разьвіцьця трусагадоўлі мае вялікае значэньне.

* * *

Зараз увесь наш друк, усе партыйныя і савецкія арганізацыі аддаюць максымум увагі справе разьвіцьця трусагадоўлі. Мяса труса нам значна дапаможа палепшыць рабочае харчаваньне.

Раённыя таварыствы да апошняга часу нічога ня робяць па разьвіцьці дробных трусаводных гаспадарак, адмахваюцца ад гэтай галіны працы. Трэба запамятаваць, што, праводзячы штодзенную работу



Фэрма Курасоўшчына. Ад няправільнай пабудовы бальер трусы робяць падкопы ў суседнія клеткі і шкодзяць маладняку.

па замацаваньні буйных трусаводных гаспадарак, ні ў якім разе немагчыма ігнараваць дробную трусаводную гаспадарку; дробная гаспадарка значна менш патрабуе да сябе клопатаў, значна менш каштуе яе ўтрыманьне і г. д.

Як паляўнічым, так і наогул усім чытачам часопісу „Паляўнічы Беларусі“ добра вядома, што на ўтрыманьне трусаводнай гаспадаркі патрэбна пэўная плошча зямлі, патрэбна засеяць гэтую зямлю. Аднак, у пасяўную кампанію 1932 г. Наркамземам і асабліва Загадзярном ніякіх захадаў ня прынята па забесьпячэньні трусаводных гаспадарак насеньнем.

Зараз, калі разьвіцьцю трусагадоўлі мы надаем выключнае значэньне, калі справа разьвіцьця трусагадоўлі накіроўваецца на палепшаньне харчаваньня, такіх безадказных адносін з боку некаторых арганізацый да трусагадоўлі не павінна быць.

Справа трусагадоўлі, справа ўсёй савецкай грамадзкасьці.

**М. Варанецкі.**

# Аб разьвіцьці трусагадоўлі ў прамысловых раёнах Маскоўскай, Ленінградзкай і Іванава-Вазьнясенскай абласьцях

*Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 8 мая 1932 г.*

1. Ухваліць ініцыятыву Маскоўскага, Ленінградзкага, Іванава-Вазьнясенскага абласных камітэтаў аб разьвіцьці трусагадоўлі.

2. Па Маскве і Маскоўскай вобласьці—давесьці да канца 1932 году пагалоўе трусоў да 360 тыс. штук, з іх 100 тыс. укамплектаваць са свайго вытворчага пагалоўя і 260.000 за лік завозу з іншых абласьцей.

3. Па Ленінграду і Ленінградзкай вобласьці—давесьці да канца 1932 году пагалоўе трусоў да 220.000 штук, з іх 30.000 укамплектаваць са свайго вытворчага пагалоўя і 190 тыс. за лік завозу з іншых абласьцей.

4. Па Іванава-Вазьнясенскай вобласьці—давесьці да канца 1932 году пагалоўе трусоў да 115.000 шт., з іх 35.000 укамплектаваць са свайго вытворчага пагалоўя і 80.000 за лік завозу з іншых абласьцей.

5. Абавязаць Саюзпушніну загатовіць для Маскоўскай, Ленінградзкай і Іванава-Вазьнясенскай абласьцей 530 тыс. трусоў-матак з іншых абласьцей.

6. Трусагадоўчыя гаспадаркі арганізаваць пры заводах і фабрыках праз ЗРК і заводзкія сталовыя; пры сталовых Нархарчу, якія існуюць па-за прадпрыемствамі; пры школах, дзіцячых дамох, больніцах і дамох адпачынку.

7. У справе арганізацыі трусагадоўчых гаспадарак не дапускаць бюракратычнай цэнтралізацыі, а разьвіваць іх на аснове самадзейнасьці заводзкіх арганізацый і максымальнага выкарыстаньня ўсіх мясцовых рэсурсаў.

**ЦК УсеКП(б).**

---

**Рыбаводзтва і рыбалоўства**

# Аб разгортваньні мясцовай рыбнай гаспадаркі ў Маскоўскай і Ленінградзкай абласьцях

*Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 9 мая 1932 г.*

1. Ухваліць ініцыятыву Маскоўскага і Ленінградзкага абласных камітэтаў аб разьвіцьці ўнутрыабласной рыбнай гаспадаркі на базе вадаемаў мясцовага значэньня (рэкі, азёры, пруды).

2. Прапанаваць Маскоўскаму камітэту ў 1932 г.:

а) арганізаваць прудовую гаспадарку ў сыстэме Мосрыбтрэста на 10 тыс. **га** звыш 2 тыс. **га**, уступаючых у эксплёатацыю ўвесну 1932 года і безадкладна разгарнуць адшукальныя работы з тым, каб у 1933 годзе арганізаваць прудовую гаспадарку на плошчы ў 17 тыс. **га**. Акрамя таго: па лініі спажыўкаапэрацыі вобласьці у 1932 годзе—400 **га**, у 1933 годзе—1.500 **га**, па лініі аблкалгасрыбаксаюзу у 1932 годзе—5.200 **га**, у 1933 г.—13.800 **га**, па лініі саўгасных трэстаў—у 1933 годзе на плошчы ў 500 **га**;

б) вызначыць агульную здачу рыбы для патрэб снабжэньня Масквы ў 1932 годзе—250 тыс. пудоў, у 1933 годзе—440 тыс. пуд., у 1934 г.—1.200 тыс. пудоў.

3. Прапанаваць Ленінградзкаму аблкому:

а) арганізаваць у сыстэме Ленрыбводтрэста, звыш маючыхся трох рыбаразводных заводаў будаўніцтва яшчэ 6 новых рыбаразводных заводаў;

б) асвоіць у 1932 годзе ня менш 40 тысяч **га** азёрных плошчаў (ня лічачы Чудзкага, Онескага і Ладаскага вазёр) з тым, каб у 1933 годзе была арганізавана рыбная гаспадарка ва ўсіх вазёрах, плошча якіх ня ніжэй 20 **га**;

в) пабудаваць у 1932 годзе 2 тысячы **га** прудавой гаспадаркі і забясьпечыць арганізацыю ў 1933 годзе ня менш 4 тыс. **га** прудовой гаспадаркі;

г) забясьпечыць здабычу рыбы ў 1932 годзе па лініі Ленаблрыбаксаюзу, Севзапсаюзу і Лендзяржрыбтрэсту ня менш 2.500 тыс. пудоў;

д) зацьвердзіць плян вылаву рыбы ў 1933 годзе ў 3.500 тыс. пудоў.

**ЦК УсеКП(б).**

# Для рыбаводзтва ў Беларусі ёсьць вялікія магчымасьці

ЦК УсеКП(б) пастановай ад 9/V 1932 г. яшчэ раз падкрэсьліў аб магутным разгортваньні мясцовай рыбнай гаспадаркі ў Маскоўскай і Ленінградзкай абласьцях. Вядома, гэта пастанова павінна знайсьці належны водгук і ў нашых дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацыях, якія займаюцца і павінна займацца рыбалоўствам. Гэта пастанова павінна даць штуршок кіраўнікам гэтых арганізацый да ўпарадкаваньня і максымальнага выкарыстоўваньня рыбнай гаспадаркі.

„Задача палепшаньня рабочага снабжэньня, асабліва ва ўмовах некаторай недахваткі мяса для задавальненьня ўсё ўзрастаючых патрэбнасьцяй рабочых цэнтраў, патрабуе ўсямернага разгортваньня мясцовай рыбнай гаспадаркі, побач з разьвіцьцём буйнай дзяржаўнай рыбапрамысловасьці“.

Савецкі саюз, у тым ліку і Беларусь, як не адна краіна ў сьвеце, мае на сваёй тэрыторыі дзесяткі мільёнаў гектараў розных натуральных вадаёмаў—рэк, вазёр і прудоў. Гэтае багацьце яшчэ поўнасьцю ня ўлічана. Толькі зараз Наркамснаб РСФСР прызнаў неабходным зрабіць інвэнтарызацыю ўсіх вадаёмаў—рэк, вазёр і прудоў—у тых раёнах, дзе можа разьвівацца дробная рыбная гаспадарка. Гэтыя вадаёмы бадай зусім не выкарыстоўваліся ў сэнсе разьвіцьця рыбаводзтва.

У нас у Беларусі таксама ёсьць вельмі шмат такіх вадаёмаў, дзе можна разьвіваць рыбаводзтва. Возьмем хаця-б басэйны рэк Дняпра, Заходняй Дзьвіны, Бярэзіны, Прыпяці і іх прытокаў. Колькі тут можна пабудаваць вельмі каштоўных лугавых гаспадарак? Колькі можна выгадаваць такіх каштоўных парод рыб, як веркальны карп, сазан? А ці мала ў нас такіх вазёр і прудоў, якія таксама можна выкарыстаць для разьвядзеньня рыбы, ракаў. Возьмем вазёры Полаччыны, балоты Мазырскага Палесься. Ёсьць шмат вазёр і прудоў, якія зусім ня значацца на карце БССР, выкінуты з інвэнтару рыбнай гаспадаркі, а між тым, там можна пабудаваць хаця-б дробную рыбную гаспадарку.

Што-ж робіцца для таго, каб выкарыстаць гэтыя натуральныя нашы багацьці?

Рыбная гаспадарка ў Беларусі знаходзіцца ў двух арганізацый—Белрыбы і Рыбаксаюзу. Першая—Белрыба павінна займацца рыбаразьвядзеньнем. Пабудавана некалькі рыбаводных гаспадарак. І... вельмі дзіўна! Ня гледзячы на такое багацьце ў Беларусі вадаёмаў, падыходзячых па свойму хімічнаму складу вады для рыбаразьвядзеньня, у гэтых пабудаваных гаспадарках справа абстаіць зусім дрэнна. Так, напрыклад, у гаспадарцы „Чырвоная зорка“ у 1930 годзе было адыходу з насаджаных малькоў 58 проц., а ў 1931 годзе адыход дасягнуў цэлых 100 проц. Гаспадарка „Белае возера“ мае таксама вялікі адыход у гэтым годзе—84 проц. Наўліцы ў 1931 годзе мела адыход 100 проц. Ня лепш справа абстаіць і ў іншых гаспадарках. Усё гэта здарылася ад няўмелага выбару месц пад рыбную гаспадарку, у той час, калі выбраць ёсьць з чаго.

Другая арганізацыя—Белрыбаксаюз дагэтуль займалася выключна эксплёатацыяй прыродных багацьцяў і толькі ў другой пяцігодцы прыступіць да рыбаводзтва. Між іншым як у мінулым годзе, так і ў першым паўгодзьдзі 1932 г. пляны Белрыбаксаюзу засталіся нявыкананымі. Але трэба яшчэ прыняць пад увагу і тое, што ня ўсе вадаёмы выкарыстаны і Белрыбаксаюзам. Апошні, згодна дырэктыў вышэйшых органаў, вылучыў некаторую плошчу вадаёмаў для эксплёатацыі і разьвіцьця рыбаводзтва Белкаапсаюзу і саўгасам. Але гэтыя арганізацыі і да сёнешняга дня ня прыступілі для выкарыстоўваньня гэтых вадаёмаў. А вылучаны ім даволі добрыя вадаёмы. Напрыклад, саўгас Варонічы мае найлепшы пруд у 100 гектараў плошчы для разьвядзеньня карпаў. Гэты пруд зарос чаротам і штогод выкашваецца. Трэба ўпарадкаваць рыбную справу і прыступіць да рыбабудаўніцтва. Некаторыя каапэрацыйныя працаўнікі і працаўнікі снабжэньня прывыклі чакаць рыбы з Астрахані, Далёкага Ўсходу і Растова.

Але яны забываюць тое, што пры невялікіх затратах можна атрымаць гэтую рыбу на мясцох. Спажываньне рыбы працоўным насельніцтвам з кожным годам расьце. У 1932 годзе на кожную душу прыпадала 3,5 кг рыбапрадуктаў, у 1937 г., да канца другой пяцігодкі на кожную душу павінна прыпадаць 12,5 кг рыбы. Аб гэтым мы павінны падумаць і задаволіць патрэбнасьці працоўных.

Усё гэта гаворыць за тое, што неабходна разьвіваць дробнае рыбаводзтва, неабходна прыступіць да ачысткі зарыбленьня прудоў, арганізацыі рыбасаўгасаў і рыбных гадавальнікаў.

Выключнае значэньне мае прудовая гаспадарка. Прадукцыйнасьць яе ў шмат разоў больш, чым натуральныя рыбавадаёмы. Лепшыя вазёры могуць даць штогод у сярэднім паўцэнтнэра сырца з га, а ў прудах нармальная прадукцыйнасьць хістаецца ад 2 да 5 цэнтнэраў. Зеркальны карп, сазан—гэтыя вельмі смачныя і тлустыя гатункі рыб—пасьпяхова і шпарка плодзяцца ў прудох. Такія гаспадаркі вельмі разьвіты былі ў Германіі і Аўстрыі. Штучная прудовая гаспадарка ў Германіі давала штогод звыш 750 цэнтнэраў высокагатунковай рыбы.





Прудовыя гаспадаркі Маскоўскай вобласьці павінны даць для Масквы ў бягучым годзе 50 тыс. пудоў рыбы, азёрныя і рачныя вадаёмы—200 тыс. У 1931 годзе ўсе ўнутраныя вадаёмы Маскоўскай вобласьці павінны даць 1.500 тысяч пудоў рыбы. Значна павышаецца праграма рыбаводзтва і ў Ленінградзкай вобласьці. Беларусь таксама мае ўсе магчымасьці для разьвіцьця рыбаводзтва.

Што трэба зрабіць для гэтага?

„Перш-на-перш, разгарнуць форсіраванымі тэмпамі вынаходзкія меліаратыўныя і будаўнічыя работы. Будаўніцтва прудовых гаспадарак трэба весьці такім чынам, каб поўнасьцю ўхіліцца ад „дзіцячых хвароб", дзе-ні-дзе ўжо дапушчаных—саматужніцтва, ігнараваньне навуковага вопыту. Да рыбаразьвядзеньня магчымы адзіны падыход—як да сур'ёзнай новай галіны народнай гаспадаркі. Мы будуем таварныя прудовыя гаспадаркі, а ня прыгожыя лірычныя пруды ў чэскім сялібным стыле з лягушкамі, але бяз... рыбы. Мы ўтвараем сапраўдныя фабрыкі сьвежай рыбы".

Па-другое, патрабуецца максымум уважлівых адносін да малькоў—іх перавозкі і засяленьня. Асноўныя пароды, якія прыняты да засяленьня прудовых гаспадарак, прыняты карп, сазан і сіг. Перавозка малькоў патрабуе дакладнай падрыхтоўкі, але ў нас ужо ёсьць вопыт, які і трэба выкарыстаць.

Па-трэцяе, усім арганізацыям, якія займаюцца і павінны займацца рыбаводзтвам, трэба ведаць, што бяз кадраў, бяз людзей, добра ведаючых гэтую справу, разьвіваць рыбаводзтва немагчыма. Таму, неабходна паклапаціцца аб тым, каб такія кадры, такія людзі былі падрыхтаваны і знаходзіліся ў іх веданьні.

Усё гэта—добрыя кадры, належны інтарэс арганізацый да сваіх прудовых гаспадарак, добрая перавозка і пасадка ікры, дастатковасьць кармоў, удалы падбор, пабудова і ачыстка прудоў і догляд іх узімку зьменшыць адыход малькоў і зробіць рыбную гаспадарку рэнтабельнай.

Белкаапсаюз ігнаруе рыбаводзтва. Між тым, трэба сказаць, што гэтай справай павінны заняцца ня толькі Белкаапсаюз, ЦРК і г. д., а і асобныя ЗРК па прыкладу некаторых заводаў Украіны—Кіева („Бальшавік"), Адэсы, Растова. Белкаапсаюз павінен падхапіць ініцыятыву гэтых перадавых заводаў і разьвіваць—дапамагаць разьвіваць! дробнае рыбаводзтва. Мабілізуем мясцовыя рэсурсы для максымальнага выкарыстоўваньня вялізарных унутраных рыбных багацьцяў. Дамо краіне высокагатункова прадукт—сьвежую рыбу. Дапаможам арганізаваць рыбныя прудовыя гаспадаркі—гэта наша задача, задача 35-тысячнай арміі працоўных паляўнічых Беларусі.

**Рыбак.**

# Рак і спосаб лоўлі яго

У нашых прэсных водах эўрапейскай часткі СССР, акрамя рыбы розных парод, водзіцца яшчэ адна прамысловая жывёліна—рак. Рак мае тры асноўныя выгляды: звычайны (шырокапалы) рачны рак, рак даўганогі і трэці выгляд—шыроканогі рак. Адрозьніваючыя прызнакі іх наступныя: 1) звычайны рачны рак, кляшня кароткая і шчыльная, нярухомы палец яе з выемкай на ўнутраным краі, 2) даўганогі рак, кляшня доўгая і стройная, пальцы бяз выемак і 3) шыроканогі рак зьяўляецца параўнальна рэдкім і пападаецца амаль выключна ў вусьцях нашых вялікіх рэк. Знадворным выглядам ён больш падобны на звычайнага рачнога рака, але кляшня ў яго шырэй, углаватая, рухомы палец яе з выемкай, „шыйка" больш вузкая.

Звычайны рачны рак жыве галоўным чынам на поўначы і лічыцца тыповым для басэйну Бальтыцкага мора; што-ж датычыцца рака доўганогага, то на Украіне гэта пераважаючая і найбольш часта сустракаемая форма, распаўсюджаная па ўсіх рэках, упадаючых у Чорнае, Азоўскае і Каспійскае моры, ад Бесарабіі і Падоліі на захад, да Урала на ўсход. З гэтых ракаў найбольшую каштоўнасьць мае шырокапалы рак, так як ён адрозьніваецца мясістымі акругленымі клешнямі з выемкай на ўнутраным краі нярухомага пальца. Гэта — „благородный", рачны рак, маючы асаблівы смак і вялікую велічыню кляшней.

Доўганогі рак-калі і ўступае шырокапаламу па смакавых сваіх якасьцях, затое ён мае другія важныя, з практычнага пункту погляду асаблівасьці: а) ростам (вагаю) значна перавышае шырокапалага, б) размнажаецца хутка і ў шмат якіх месцах выцясьняе звычайнага, в) лёгка прыстасоўваецца да любых умоў (знаходзім у салёнай вадзе паўднёвай часткі Каспійскага мора і на вялікай глыбіні).

Усе ракі жывуць у праточных водах рэк, ручаёў, азёр і прудоў. Любяць чыстую сьветлую ваду. Днём яны большаю часткаю хаваюцца ў норах, пад камнямі, а ноччу выходзяць на паляваньне за дробнай рыбкай і другой жыўнасьцю. Ракі харчуюцца рыб'ім мясам, усякага роду падлаю, вадзянымі расьлінамі і з вялікім апэтытам ядзяць чорны хлеб. Узімку ракі часткова трымаюцца ў норах, часткова бродзяць па дну, адшукваючы харчы. Ракі штогод у ліпені-жніўні „ліняюць", г. зн. скідаюць свой панцыр, узамен якога ў іх вырастае новы. У гэты час яны хаваюцца ў норах, так як служаць прыманкай для драпежных рыб. „Лінялы" рак, насажаны на кручок данай вудачкі, вельмі добрая

насадка на язя. Такую насадку язь не абыйдзе. Рак доўгі час жыве без вады, пакладзены ў вільготны мох ці ў сьвежую крапіву і добра пераносіць дальнюю перасылку. Увосень самка адкладае дзьветры сотні яечак-ікрынак, прымацоўваючы іх да брушных паласьцяй асаблівай клейкай вадкасьцю. З гэтых яечак у чэрвені - ліпені выходзяць маленькія рачкі. Сярэдняя даўжыня рака—9-10 сантымэтраў, але некаторыя веліканы дасягаюць 15 сантымэтраў. Год сорак пяць назад ракаў вадзілася ў нашых рэках і вазёрах безьліч. Рыбакі вельмі ня любяць іх за тое, што яны запутвалі сеці і паядалі папаўшую рыбу.

Хутка здарылася так, што рак зрабіўся рэдкасьцю ў нашых водах. Сярод ракаў зьявілася „чума“ (мор, як тады казалі), павальная хвароба,




якая як мятлой зьмяла рака. Апусьцелі амаль усе нашы вялікія рэкі і іх шматлікія прытокі. Шмат год прайшло, рак паказваўся толькі дзе-ні-дзе адзінкамі і толькі ня так даўно ракі зноў зьявіліся ў шмат якіх рэках і вазёрах і на іх зьвярнулі ўвагу Дзяржгандаль, Рыбсындыкат і інш. экспартуючыя арганізацыі. Нашага рака зноў ахвотна купляюць заграніцай, а таму лоўля яго ўяўляе бязумоўны інтарэс для насельніцтва.

Заграніцай ракі выкарыстоўваюцца такім чынам: шыйкі і клешні, у якіх знаходзіцца смачнае белае мяса, кансэрвуюцца, а з унутранасьцяй вываравецца „ракавае масла“, якое ўжываецца для супу. Жывыя ракі ў звараным выглядзе падаюцца ў рэстаранах па заказу наведвальнікаў, як і ў нас.

Такім чынам рак, які водзіцца ў водах нашай Беларусі, можа быць прадметам масавага промыслу для вясковага насельніцтва і ня толькі палепшыць стол нашай вёскі, але дасьць падсобны прыработак на заўсёды, зразумела, пры ўмове плянавай гаспадаркі. Здабыча рака не складаная, не выклікае асобных затрат па прыгатаваньні снасьцей, амаль няма ва ўжываньні вёскі, мінуючы рынак.

Ловяць ракаў увесну, на веснавых разьлівах ноччу пры агні, з запаленай лучынаю; ловяць улетку ў норах, вытаскваючы рукой, ловяць з дапамогаю хмызьняка, зьвязанага ў пучкі, куды кладуць прыманку, праз вядомы прамежак часу хмызьняк хутка паднімаюць з дапамогаю прывязанай вяроўкі, ракі не пасьпяваюць уцячы і злоўлены, але самы распаўсюджаны спосаб лоўлі і сапраўдны—рачніца і таўкач асабліва.

Рачніца нічым не адрозьніваецца ад звычайнага сачка, калі ня лічыць асобнага спэцыяльнага прыстасаваньня. Да драўлянага абруча, з арэху, лазы, бярозы, наогул з няломкага дрэва, дыямэтрам сантымэтраў 35—40 (разьмер дыямэтра—асабістае меркаваньне) падшываюць звычайны кусок рыбалоўнай сеткі (ці вяжуць спэцыяльна) так, каб атрымаўся значны адвес. Тры моцных шнурка прымацоўваюць да абруча на роўнай адлегласьці друг ад друга па кругу; шнуркі гэтыя зьвязваюцца паміж сабой з разьлікам, каб месца злучэньня шнуркоў супадала ў цэнтр акружнасьці абруча і была на вышыні сантымэтраў трыццаць; да месца злучэньня шнуркоў прывязваюць тонкую вяровачку; даўжыня вяровачкі залежыць ад глыбіні вадаема, у якім утвараецца лоўля; на канец вяровачкі прывязваюць канец палкі мэтра 2—2½ даўжынёй. Цэнтр лучынкі ці тонкай пляначкі, праз дыямэтр абруча, прымацаванай канцамі да абруча—месца прыманкі, а два вагара (невялікія плоскія камні ці кусочкі цэглы), на канцах лучынкі, топяць рачніцу. Рачніца гатова. Мэтазгодней, зразумела, зрабіць абруч з тоўстага дроту ці з паласавога жалеза (ня будзе патрэбнасьці ў грузах), але гэта ня кожнаму будзе па сілах з матар'яльнага боку, пры вялікай колькасьці рачніц.

Рак, як было ўжо сказана, выходзіць на паляваньне ноччу. Удзень ён сядзіць дзе-небудзь у зарасьлях водарасьляй, пад карагай, пад апаўшымі лістамі на дне, а то і ў вырытай ім самім норцы. Зайшло сонца—рак выходзіць з свайго ўкрыцьця ў пошуках ежы. Ракалоў ужо тут і расстаўляе свае рачніцы ўздоўж берага, з смачнай прыманкай. Адкіды якога-небудзь мяса, скарынкі чорнага хлеба—прыманка рака. Але лепшая прыманка—жабка, разрэзаная на часткі. Лоўля ідзе ўначы. Ні задрамаць, ні прысесьці тут ужо нельга: толькі праверыў апошнюю рачніцу, трэбаісьці да першай. Рак калі адчуў прыманку ідзе ня спыняючыся, прыманку есьць прагна, не схапіў—прыманкі ўжо няма. Паднімаюць рачніцу хутка з дна, а потым ужо ход зьніжаюць. Пры такім прыёме рак топіцца ў рачніцы, выскачыць ня можа. Занялася зара, брызнуў сьвет сонца, рак пайшоў, схаваўся. Ракалоў ідзе з таўкачом, хаця ён лавіў і ўначы, разьлічваюцы, галоўным чынам, на рыбу. З нешматлікіх ракалоўных снасьцей увагу ракалова спыняе такая. Таўкач атрымаў сваё імя яўна ад вытворчага дзеяньня ў час лоўлі, што і будзе відаць далей. Таўкач ня толькі ракалоўная, але і рыбалоўная снасьць няглыбокіх травяністых

вадаёмаў, з умераным цячэньнем. Таўкач—снасьць лета, так як працэс прымушае лаўца быць увесь час у вадзе, то па пояс, то па грудзі. Ловяць таўкачом ва ўсякі час сутак, але лепшы лоў трэба лічыць ноччу, калі акрамя рака і дробнай рыбкі можна паймаць і буйную рыбу (праўда, гэта бывае вельмі рэдка, але ўсё-ж бывае).


ТАЎКАЧ

Як і ўсякая ракалоўная снасьць, таўкач—нескладаная снасьць. Бярозу, арэх ці другое якое-небудзь някрохкае дрэва, таўшчынёю ў 2—3 см, сагнутае дугой, замацоўваюць на канцох прамой палкай такой-жа таўшчыні і даўжынёй ня менш 2—$2^1/_2$ мэтраў, а то і больш, у залежнасьці ад таго, якога разьмера жадаюць мець таўкач. Да сярэдзіны злучальнай палкі прымацоўваюць пэрпэндыкулярна (па гарызанталі нізу) такую-ж палку па таўшчыні, а па даўжыні прыкладна, на адну чвэртку даўжэй. Ад канцоў і ад сярэдзіны дугі, у сваю чаргу, ідуць палкі да канца палкі толькі што сказанай, г. зн. прымацаванай да злучальнай палкі. Усе гэтыя палкі, злучаныя канцамі, змацоўваюцца бічоўкай ці даўгім лыкам. Такім чынам атрымліваецца остаў таўкача. Пры гэтым усе палкі, як і дугу, ачышчаюць ад кары і падбіраюць па адзін дыямэтр дугі з невялікім хістаньнем у той ці іншы бок.

Конусападобны мяшок, пераважна з кручаных нітак (доўгавечныя), з ячэямі, якія робяць у большасьці з разьлікам на дробную рыбку, нацягваюць на шкілет, з канца злучэньня палак, прышываюць да дугі і да злучальнай палкі, прычым ніз павінен быць з невялікім адвесам. Потым прымацоўваюць палку (ручку) да сярэдзіны злучальнай палкі дугі і да самой дугі ўверсе з тым, каб канец гэтай палкі быў вышэй дугі на $1^1/_2$—2 мэтра. І таўкач гатоў.

Тэхніка лоўлі наступная. Ракалоў уваходзіць у ваду пераважна босы і рэдка ў лапцях. Ціха падводзіць ён таўкач да берага і апускае на дно з разьлікам, каб, трымаючы таўкач за палку (ручку), ён мог бы дастаць бераг нагамі. Устанавіўшы, такім чынам, таўкач, ракалоў пачынае ад берага абмацваць нагамі дно, паступова падводзячы ногі да адтуліны таўкача. Сьпяшаючыся, паднімае ён таўкач з вады, як толькі ўсё абмацана нагамі перад таўкачом.

Ня толькі рак, але і рыба выскачыць з таўкача не пасьпяваюць, так як таўкач хутка вымаецца з вады з апушчаным уніз канцом. Вялікая рыба сыгналізуе аб сваім прысутнічаньні моцным штуршком у хвост таўкача. У момант таўкач ставяць на канец—вышэй узроўня вады ўваходнай адтулінай—і рыба спаймана.

Вопытны ракалоў добра ведае і рачы месцы, і стаянку рыбы ў падводнай кусьцістай ці суцэльнай травяністай зарасьлі. Ён падводзіць таўкач ва ўловістае месца хутка і ціханька, ён лоўка адрэжа шлях адступленьня і раку і рыбе.

Пасьпяхова ловяць рака і рыбу ня толькі ў берага, але і па ўсім рэчышчы ракі, куды толькі дазваляе зайсьці глыбіня вады. Звычайна ракалоў ня прыходзіць дамоў бяз улову. Зразумела, калі ў даным вадаёме ня зьменшылася колькасьць ракаў і рыб.

Поўныя свае смакавыя ўласьцівасьці рак набывае летам. І гэта, зразумела, узгоднена з практычнай сапраўднасьцю—май, чэрвень, ліпень, жнівень—калі і ловяць рака.

**Ф. А. Лялін.**


РАЧНІЦА

## Пашырэньне загатоўкі ўсіх відаў рыбы—справа кожнага паляўнічага

# Як патрашыць, хаваць, загатаўляць на карысьць, перасылаць дзічыну

Значныя прыродныя багацьці СССР вадаплаваючай, балотнай і стэпавай дзіччу, прамышляемай у цёплы час году, ня могуць быць дастаўлены да спажыўца ў натуральным сьвежым выглядзе і патрабуюць перапрацоўкі для захаваньня яе ад псаваньня.

Найлепшым спосабам захаваньня дзічыны зьяўляецца замарозка яе ў сьвежым выглядзе на халадзільніках, перапрацоўка на кансэрвных заводах. Але гэтыя спосабы з-за нязначнасьці сеткі халадзільнікаў і кансэрвных заводаў прымянімы толькі да невялікай часткі загатаўляемай дзічыны. Астатняя загатоўленая дзічына (акрамя спажываемай на месцы, згодна ўстаноўленых плянаў разьмеркаваньня, непасрэдна ў сьвежым выглядзе) павінна быць перапрацавана.

## Перш за ўсё—барацьба з мікробамі

Дзічына прымаецца ад паляўнічых толькі ў сьвежым, несапсаваным выглядзе. У цёплы час году дзічына псуецца вельмі хутка. Мяса загніваецца ад дзеяньня мікробаў, пранікаючых з гразі і пылу праз надворныя пакровы дзічыны (вельмі разьбітая стрэлам дзічына вельмі дрэнна вахоўваецца) і праз кішачнік у выніку разлажэньня (гніеньня, распаду) знаходзячыхся ў ніжнім адрэзку задняй кішкі дзічыны рэшткаў пераваранай ежы.

Для захаваньня дзічыны ад псаваньня, неабходна адразу-ж пасьля забою ўтварыць першачнае патрашэньне, і тады разам з кішачнікам будуць выдалены з тушкі і гніласныя мікробы.

Першачнае патрашэньне трэба рабіць вельмі асьцярожна, але не праз разрэв, які можа даць свабодны доступ гніласным мікробам у цела дзічыны, а кручком, уводзімым досыць глыбока ў задні праход. Робіцца гэты кручок з галінкі дрэва ці хмызьняка. Кручком трэба зрабіць два-тры поўных абароты ў адзін які-небудзь бок. Кішкі выцягваюцца пры гэтым поўнасьцю.

Выпатрашаная дзічына пры дапамозе таго-ж кручка набіваецца праз задні праход, а таксама ў глотку палыном, мажжавельнікам ці прасальваецца (задні праход і глотку) дробнай сольлю.

## Сартыроўка дзічыны

Дзічына павінна быць сьвежая, зусім добраякасная, бяз усякага гнілоснага паху, ліпкай сьлізі і адзнакаў псаваньня і гніеньня. Сапсаваную дзічыну нават у самым пачатку псаваньня лёгка выявіць паводле паху з глоткі пры раскрытай дзюбе.

У перапрацоўку пускаюць толькі добраякасную дзічыну, бо гнілая, трапляючы пры засоле ў бочку разам з добрай, можа сапсаваць усю дзічыну.

Худая дзічына, з недастатковым тлустым пакровам, павінна пускацца ў прасолку—на хаваньне ці на вяленьне, але не на капчэньне, бо пры капчэньні атрымліваецца перасушэньне, часам прыгарэлая дзічына (сухар).

Прынятую дзічыну трэба безадкладна пускаць у перапрацоўку або разьвесіць па аднаму ці паклась ці кожную асобна на лядоўні ці ў склепе, у мясцох з найбольш нізкай тэмпэратурай. Забараняецца складваць прынятую дзічыну адну на другую.

## Абскубваньне і апальваньне

Прынятую дзічыну безадкладна і старанна абскубваюць. Абскубваньне дзічыны ўтвараецца выключна сухім спосабам. Ашпарваньне дзічыны варам ці апусканьнем у вар катэгарычна забараняецца (з некаторых відаў дзічыны—лебедзь, баклан, паганка—зьнімаюцца каштоўныя скуркі). Атрымліваемыя пух і пяро не павінны зьмешвацца, а сартыруюцца прыстасоўна да існуючых стандартаў.

Пасьля абскубаньня з тушкі выдаляюць усе наскурныя пянькі, якія засталіся ад пяра, потым дзічыну зьлёгку апальваюць на агні, не дапускаючы пры гэтым папсаваньня (прыгараньня) скуры. Прыгатаваная такім чынам дзічына павінна мець белы ці жаўтавата-белы колер чыстай непапсаванай скуры.

## Разьдзелка (патрашэньне)

Тушка патрошыцца шырокім разрэзам брушной паласьці зьверху ўніз і кальцавым разрэзам у задні праход, вызваляецца ад унутранасьцяй (кішак, страўніка, печані, лёгкіх, сэрца) і ўнутрана зьмясьціва крыві, крывяпадцёкаў, забоін і г. д., якія грунтоўна ачышчаюцца. Акрамя таго, таксама надрэзваецца шыя, над грудной клеткай, і тушкі старанна вызваляюцца і ачышчаюцца ад дыхальнага і страўнікавага горла і зоба. Галаву і лапкі тушак адразаюць.

Галава, лапкі, печань з выдаленым жоўчным пухірам, сэрца і ачышчаны пупок аддзяляюцца ад іншых унутранасьцяй і пасьля ачысткі і старannай прамыўкі пускаюцца асобна ў пасол (у тузлук) у асобную пасуду—бочку—пад назваю „патраха дзічыны“.

Дзічыну найбольш буйных парод (лебедзь, гусь, дрофа, журавель, качка-крыжан) можна распластываць разрэзам па сьпіне ці разразаць на дзьве палавіны.

Для вяленьня, правадзімага шляхам папярэдняга апусканьня ў кіпяшчы расол, уся дзічына павінна быць распластана на сьпіне ці разрэзана на дзьве палавіны, а па мякаці грудзі павінна быць зроблена 2—4 прадоўжных разрэзы да косьці.

Потым тушкі ўзважваюць на вагах і старанна яшчэ раз ачышчаюць і прамываюць (ня менш двух разоў) у сьвежай чыстай вадзе, прычым павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на поўнае аддзяленьне ўсіх згусткаў крыві.

## Пасолка дзічыны „мокрым спосабам“

Разьдзелку і пасолку дзічыны трэба рабіць пры тэмпэратуры 4—6 градусаў цяплыні па Цэльсію. У выпадку немагчымасьці дасягненьня ўказанай тэмпэратуры, утвараць яе ў найбольш халодным памяшканьні.

Бочкі для саленьня дзічыны павінны быць моцныя, ня мець цечы, ваданепранікальныя, з добра набітымі абручамі і бяз усякага староньняга паху. Бочкі перад ужываньнем павінны быць старанна вымыты і выпараны.

Соль для пасолкі дзічыны ужываецца дробная і чыстая бяз усякіх домешак. Соль павінна быць абавязкова сухая, і таму, перш чым ужываць яе, трэба старанна яе высушыць, а буйную соль разьмельчыць.

## Пасолка „сухім спосабам“

Утвараецца яна толькі ўвосень з наступленьнем халоднага надвор'я. Для пасолкі бяруць ад 5 да 7 проц. солі да вагі тушкі (5—7 кг солі на 100 кг разьдзеланых тушак). Тушкі націраюцца сольлю зьверху і ў сярэдзіне.

На дно бочкі насыпаюць пласт солі (у лік узятай нормы), потым тушкі шчыльна ўкладваюцца радамі ў бочку. Кожны рад пасыпаюць сольлю (у лік нормы) і ўтрамбоўваюць рукой. Накладка радоў утвараецца да таго часу, пакуль бочка не напоўніцца да самых краёў (горкай). Укладка тушак у бочкі ўтвараецца так, каб тушкі больш буйныя зьмяшчаліся ўнізе бочкі, а больш дробныя зьверху. Тушкі ў бочкі ўкладваюць сьпінкамі ўніз.

На другія суткі пасьля натуральнай асадкі дзічыны ўложаная ў бачонак дзічына павінна быць спрэсавана. Груз на кружок, свабодна праходзячы ў бочку, накладаецца ў разьмеры 2—3 кг на 10 кг мяса тушак.

На трэція суткі пасьля асадкі ад прэсаваньня бочкі дапаўняюцца тушкамі з другіх бочак (таго-ж часу пасолкі), затарываюцца і пераварачваюцца.

На 4—6 суткі, у залежнасьці ад велічыні засоленай дзічыны (дробная дзічына патрабуе меншай колькасьці часу для пасолкі, буйная—большага) дзічына можа лічыцца гатовай і накіроўвацца па прызначэньні.

Гатоўнасьць дзічыны пры пасолцы вызначаецца шчыльнасьцю мяккіх часьцей тушкі (грудзі), што ўстанаўляецца націсканьнем пальца на грудку, пасьля чаго павінна застацца ямка ад пальца.

Раўнамерна прасоленая дзічына набывае сінявятую афарбоўку мяса і падскуранай тлушчы.

Кожная бочка запаўняецца адным відам дзічыны і маркіруецца ўказаньнем арганізацыі, названьнем дзічыны, вагі нетто і брутта, датай засолкі (дзень, месяц, год), а таксама нумару, прысвоенага данаму пункту.

## Пасолка „зьмешаным спосабам“

Утвараецца яна ў цёплы час году (вясна, лета, восень, да наступленьня халоднага надвор'я). Для націркі тушак солі бяруць ад 8 да 12 проц. (8—12 кг на 100 кг мяса). Націрка, пасолка і ўкладка ўтвараецца тым-жа спосабам, які паказан пры пасолцы „сухім спосабам“.

На 3-і ці 4-ты дзень бочкі закупорваюць і праз верхнюю адтуліну, зачыняемую драўляным коркам, уліваюць тузлук (рассол) да поўнага запаўненьня бочкі.

Тузлук (рассол) прыгатаўляецца шляхам кіпячэньня вады з сольлю. Моцнасьць тузлука (рассолу) павінна быць 18—20° па Бомэ, прыкладна, 1,5 кг солі на вядро вады (12 кг). Пасьля кіпячэньня з рассолу зьнімаюць пену, прапускаюць яго праз фільтр (валасяны ці марлевы) і астужваюць. Заліўка бочак утвараецца толькі халодным тузлукам (рассолам).

Праз 7 дзён хаваньня пры тэмпэратуры ня вышэй 4—6° цяплыні па Цэльсію дзічына адпраўляецца па прызначэньні.

## Капчэньне дзічыны

Для капчэньня прыгодна дзічына толькі з дастатковай колькасьцю тлушчы ў падскуранай тканіне. Худая дзічына кепска пракапчваецца, прыгарае, патрабуе змазкі тушкі салам.

Пасоленую „сухім“ ці „зьмешаным“ спосабам дзічыну на 3 сутак вымаюць з бочак, прамываюць у вадзе і правяльваюць на паветры пад паветкай на працягу 5—10 гадзін. У ясную пагоду асушка дзічыны ўтвараецца хутчэй, у хмурную зацягваецца.

Пасолка дзічыны для капчэньня павінна ўтварацца з меншай колькасьцю солі. Для пасолу бярэцца толькі 5 проц. солі (5 кг солі на 100 кг тушкі), а моцнасьць тузлука (рассолу) пры „зьмешанай“ пасолцы не павінна быць вышэй 15° па Бомэ.

Гатоўнасьць пасоленай дзічыны для капчэньня вызначаецца шчыльнасьцю мяккіх частак тушкі (грудзі), шляхам націсканьня пальцам (пасьля чаго павінна застацца ямка ад пальца).

У цёплы час году пры разьдзелцы (перад пасолкай) дзічыны, прызначанай для капчэньня, трэба ўтварыць пластаньне дзічыны праз прадоўжны разрэз па сьпінцы. Пры абсушцы і капчэньні ў тушку павінны ўстаўляцца драўляныя распоркі.

Для капчэньня прыгодна любое паліва за выключэньнем парод, утрымліваючых смалу (сасна і г. д.), бо апошняя надае капчонай дзічыне пах скіпідару.

У пачатку капчэньня для лепшай цягі ўсе ўюшкі, заслонкі і дзьверцы павінны быць адкрыты, і толькі пасьля абсушкі паверхні капцяшчайся дзічыны іх трэба закрыць. Гатоўнасьць дзічыны вызначаецца на практыцы пробай. Пры халодным капчэньні колер скуркі павінен мець залацістае адценьне.

## Капчэньне гарачым і халодным спосабам

Утвараецца яно толькі ўвосень з наступленьнем халаднаватага надвор'я.

Дзічына, абсушаная (правяленая), на паветры падвешваецца на кручок ці на дрот (пры гарачым капчэньні) ці на вяровачцы, умацаванай за шыю тушкі. Тушкі павінны быць рассунуты драўлянай распоркаю, такую-ж распорку ўстаўляюць у разрэз шыі дзічыны.

Працягласьць капчэньня залежыць ад велічыні тушак і вызначаецца на практыцы. Чым менш разьмер тушкі, тым карацей час капчэньня. Для качак прабываньне ў капцільнай камеры вызначаецца ў 3—3$^{1}/_{2}$ гадзіны, для гусей—4—4$^{1}/_{2}$ гадзіны. Першы час дзічына копціцца пры тэмпэратуры 70—80° па Цэльсію, астатні час пры тэмпэратуры 30—40° па Цэльсію.

Капчэньне халодным спосабам праводзіцца ў цёплы час году. Працягласьць капчэньня—ня менш 30 гадзін. Капчэньне ўтвараецца пры тэмпэратуры 20—30° па Цэльсію.

## Аддзелка, упакоўка і хаваньне

Пракопчаныя тушкі вымаюцца з капцільнай камеры і ў выпадку неабходнасьці тут-жа аддзелваюцца—ачышчаюцца ад нагара і копаці. Аддзелка тушак утвараецца жорсткай паперай ці лучынкай, або тупым краем нажа, з дастатковай асьцярожнасьцю, каб не парваць і не пашкодзіць скурку. Аддзелку неабходна ўтвараць адразу пасьля капчэньня (яшчэ цёплай тушкі), бо пасьля астываньня нагар і копаць ачышчаюцца дрэнна. Пасьля аддзелкі тушкі разьвешваюцца абавязкова ў халаднаватым, добравэнтылюемым памяшканьні для астываньня.

Пасьля поўнага астываньня тушак, але звычайна не раней, чым праз 2 дні, дзічына можа быць запакавана ў скрынкі і адпраўлена па прызначэньні. Упакоўка дзічыны ў скрынкі павінна ўтварацца перад самай адпраўкай. Скрынкі не павінны быць шчыльна зьбітымі, а мець дастатковыя шчыліны, бо капчоная дзічына мае патрэбу ў свабоднай вэнтыляцыі паветра. У сьценках шчыльных скрынак неабходна пракруціць дзіркі для свабоднага праходу паветра.

Укладка дзічыны ў скрыню павінна ўтварацца як правіла, для буйнай і сярэдняга разьмера дзічыны ня вышэй чым у 3 рады, для дробнай дзічыны (чырок, кулік і г. д.) ня вышэй, чым у 5 радоў. Скрынка павінна быць выслана, а дзічына паміж радамі павінна быць перакладзена мажжавельнікам, галінамі елкі, вераскам, сухім чаротам ці рагожай.

У кожнай скрынцы ўпакоўваецца толькі адзін від дзічыны. На кожнай скрынцы павінен быць чоткі і ясны надпіс: арганізацыі, утвараючай капчэньне, прысвоены пункту нумар, дата (дзень, месяц, год) утварэньня капчэньня, найменьне дзічыны, колькасьць штук, вага нетта.

У выпадку пакіданьня капчонай дзічыны на пунктах апошняя павінна хавацца ў халаднаватым, але ня вільготным, добра вэнтылюемым памяшканьні, падвешаная да столі на перакладзінах. У такім выглядзе капчоная дзічына можа захоўвацца досыць доўгі час.

## Як вяліць дзічыну

У месцах, аддаленых ад чыгунак, пры адсутнасьці налажаных шляхоў зносін для вывазу перапрацаванай дзічыны, пры недахопе тары для пасолкі і капчэньня, а таксама ў адносінах нятлустай дзічыны (худая птушка пры капчэньні дае перасушаны, дрэнны прадукт) дапускаецца вяленьне дзічыны.

Вяленьне ўтвараецца наступным чынам. Дзічыну абскубваюць, апальваюць, патрошаць і старанна прамываюць да поўнага аддзяленьня згусткаў крыві—звычайным парадкам, як і пры пасолцы. Тушкі дзічыны распластоўваюцца па сьпіне. Па мякаці грудзі робяць два-чатыры прадоўжных разрэзы да касьці. Драўлянай палачкай, якая ўстаўляецца між рэбраў, тушцы надаюць распластаны выгляд. Больш буйную дзічыну можна разрэзаць на дзьве палавінкі.

Прыгатаваныя такім чынам тушкі на вяровачцы, прывязанай да шыі, апускаюцца ў кіпячы рассол моцнасьцю 25° па Бомэ, у якім плавае сьвежае курынае яйка (ці бульбіна), на 1—2 мінуты ў залежнасьці ад разьмеру дзічыны (чым менш птушка, тым час апусканьня карацей). Вынутую з кіпячага рассолу тушку падвешваюць для правялкі пад паветку, дзе ёсьць дастатковая цыркуляцыя паветра. Вяленьне працягваецца ад 4—5 дзён.

Страта вагі пры вяленьні роўна 40—50 проц. ад першапачатковай вагі (выключна за кошт вады) усе каштоўныя спажыўныя рэчы захоўваюцца.

Хавацца вяленая дзічына павінна ў сухім і халаднаватым і добра вэнтылюемым памяшканьні, падвешаная радамі да столі. Пры такіх умовах дзічына захоўваецца вельмі доўгі час.

„ОГ“.

# Спосаб чысткі медных гільз

Парашкі, мазі, вадкасьці розных рэцэптаў—спосабы чысткі медных гільз, прымяняемыя нашымі паляўнічымі, а другія пускаюць у справу проста попел, біты вугаль, крэйду, дробны наждак і нават пясок (ёсьць практакі), папляваўшы на суконку.

Між іншым для ачысткі ад нагара рэкамэндуецца вада з содаю, з купаросным маслам ці моцнаю гарэлкаю, в якіх дзьве апошнія сільна разрушаюць гільзы, а першы вельмі мала дапамагае. Увогуле ўсе вадкасьці і парашкі патрабуюць і затраты лішніх сродкаў і клапот па іх набыцьці, асабліва вясковаму жыхару, а галоўнае не даюць жадаемых вынікаў, ня гледзячы на ваша стараньне і вы ня можаце пахваліцца бляскам сваіх гільзаў.

Ёсьць і такія паляўнічыя, у якіх медная гільва крыклява выдзяляецца сваёй „зеленьню“ і зьверху і знутры, а нагар сходзіць сваім... „натуральным“ шляхам. Зразумела, што доўгавечнасьць гільзы, пры такім становішчы, скарачаецца, уплывае на асечкі (зарастае накавальня) і вы, скрозь і ўсюды, пазбаўлены магчымасьці даць раптоўны стрэл: гільза застрала ў патроньніку.

Калі ёсьць паляўнічыя. якія не зьвяртаюць увагі на зьмесьціва сваіх гільзаў толькі па сваім нявуцтве, то многія паляўнічыя дапускаюць свае гільзы да немагчымага становішча па прычынах ці нявеланьня сапраўднага сродку і ім абрыдвае частая марудная работа і пры тым досыць грозная, ці не заўсёды яны могуць дастаць патрэбныя сродкі, жывучы далёка ад гораду. Між тым просты, можна сказаць, народны сродак ёсьць амаль у кожнай хаце вясковага жыхара. Сродак гэты—вадкасьць квасная гушчы. Карыстаюцца ёю так. Вынуўшы пістоны гільзы кладуць на ноч (ці на некалькі гадзін) у глыбокую гліняную пасуду, наліваюць вадкасьць і ставяць у цёплае месца. Калі ўвесь нагар адкісьне, гільзы выпаласкваюць гэтай-жа гушчай, праціраюць унутраныя сьценкі пальцам, калі палец не ўваходзіць—анучкай, накручанай на палачку, потым прапаласкваюць у двух-трох вадах, выціраюць зьверху і знутры сухой анучкай і сушаць у печцы ці на сонцы ў жаркі дзень. Гільзы выходзяць зусім новымі без малейшай плямкі (зразумела, калі да гэтага ня былі праедзены окісам нагара) і нікольк ня псуюцца. Такое-ж дзеяньне ўтварае стары ня зусім сьпіты квас бяз гушчы. Добра зводзяць нагар і іржу і расьціснутыя журавіны, але гэты спосаб марудны, патрабуе работу над кожнай гільзай у паасобку, таму можа быць ужыт пры партыі ў 5—6 гільз, пры другой колькасьці патрабуе і большай працы і большы час. Ва ўсякім выпадку журавіны маюць перавагу перад многімі сродкамі, складзенымі па рацэпту.

**Ф. А. Лялін.**

# Што трэба ведаць, каб унікнуць няшчасных выпадкаў

Што мы хутка забываем ня толькі артыкулы ў часопісах, але і кнігі і брашуры, пра гэта гаварыць няма чаго. Забытымі, закінутымі ляжаць яны гадамі і толькі. калі здарылася якое няшчасьце, раскрываеш іх старонкі, так настойліва папярэджваўшыя нас. Па гэтых ісьцінах (не патрабуючых довадаў) я і хачу паўтарыцца па пастаўленаму загалоўку ў нашай часопісі, пасьля часопісі „Охота и природа“ 1928 г.. папярэдзіўшы паляўнічага-чытача нашага ад няшчасных выпадкаў.

Некаторыя сучасныя ружэйныя паляўнічыя глядзяць на паляваньне, як на забаўку, не патрабуючую ніякіх ведаў, і ня толькі нічога ў паляваньні ня ведаюць і не разумеюць, але, галоўнае, **і ведаць ня хочуць.**

На паляваньне яны ідуць ці за няменьнем другіх заняткаў, ці каб „гульнуць“ на сьвежым паветры, ці проста з-за падражаньня іншым. Нават самых элемэнтарных правіл ня ведаюць: як абыходзіцца са стрэльбай. Пра сабаку, жыцьцё зьвера, птушкі, способы паляваньня і гаварыць ня прыходзіцца. Паляўнічая літаратура—нікчэмны баласт, па іх разважаньню.

Жывым узорам паўстаюць перада мною трагічныя малюнкі, калі думка на мінуту спыняецца на нявуцтве такіх гора-паляўнічых.

Прастрэленая кісьць уласнай рукі, адарваны палец, у горшым выпадку (у большасьці) сьмерць напавал сабе ці каму-небудзь з акаляючых—вынікі ўласнай нядбайнасьці.

Калі прасачыць паляўнічую хроніку здарэньняў—пераканаешся, што тыя ці іншыя здарэньні адносяцца якраз да тых, хто ня хоча вучыцца і другіх вучыць, каб быць добрым паляўнічым.

Быць на паляваньні з такім „паляўнічым“—раўнасільна стаяць на складзе ўзрыўных рэчаў з палаючай лучынай у руках. У такіх выпадках лепш быць разважным і застацца дома (ад небясьпекі далей), чым рызыкаваць уласнай шкурай. Трэба цьвёрда памятаць, што ў руках стрэльба, а ня палка для гулянкі, якой можна размахваць дзе папала і як папала.

Каб унікнуць няшчасных выпадкаў у абыходжаньні са стрэльбай і навукі ня трэба, трэба толькі цьвёрда ведаць:

1. У абыходжаньні са стрэльбай будзь асьцярожны. Не забывай, што стрэльба ня цацка,—яна хавае ў сабе сьмерць.

2. Узяўшы стрэльбу ў рукі, пераканайся, ці не заражана яна. У цэнтральным—адчыні затвор, а ў шомпальным—правер шомпалам.

3. Нават пэўна ведаючы, што стрэльба не заражана, абыходзься з ёю як з заражанай. Ніколі не накіроўвай стрэльбу на людзей.

4. Не забудзься апусьціць куркі, калі вешаеш стрэльбу, ці калі каля цябе стаяць людзі.

5. Удзельнічаючы ў аблаўных паляваньнях, не заражай цэнтральнай стрэльбы, пакуль цябе не паставяць на нумар.

6. З шомпальнай зьнімі пістоны і пад куркі пакладзі падкладку.

7. Пералязаючы праз плетні, перапрыгваючы праз канавы, пераходзячы праз сьлізкія пераклядзіны на качавах, ручаях і інш., на пераправе ў лодцы, вынь патроны, а з шомпальнай зьнімі пістоны.

8. Дома ніколі не пакідай стрэльбы заражанай, бо да яе можа дабрацца дзіця ці чужы чалавек, ня ўмеючы абыходзіцца са стрэльбай.

9. Не стаўляй стрэльбы да сьцяны, да плятня, да плоту ні на прывале, ні дома: яна лёгка можа зваліцца. Лепш за ўсё вешай рулямі ўніз, каб сьмецьце ня трапіла ў дула.

10. Ніколі ня трымай стрэльбу за рулю дулам да сябе, асабліва вылязаючы з лодкі ці сходзячы з падводы. Перадаючы стрэльбу другому, трымай яе руляй уверх.

11. Заражаючы стрэльбу, трымай рулі ўніз.

12. Пры паляваньні ў кампаніі, сачы, каб дула тваёй стрэльбы ня было зьвернута ў бок таварышоў.

13. На ўсякім паляваньні сачы—дзе твой бліжэйшы таварыш.

14. Ня пускай зарад у няясную мішэнь, на шум ці на траву галіну, якая калышацца.

15. Будзь асьцярожны пры стральбе буйных №№ шроту, памятаючы, што буйны шрот дае рыкашэты (адскаквае пад вуглом ад цьвёрдых прадметаў і вады).

16. Умей трымаць сябе ў руках, як-бы пал не гарэў у табе.

Калі хто ня вывучыў яшчэ паляваньне, але строга выконвае пералічаныя кіруючыя ўказаньні, ён ужо напалову паляўнічы і застрахаваў сябе ад няшчасных выпадкаў у абыходжаньні са стрэльбай.

**Ф. А. Лялін.**

## Спосаб зьнішчэньня ястрабаў

Ястрабы, якія адрозьніваюцца ад другіх пярнатых драпежнікаў кароткімі закругленымі крыламі і доўгім хвастом, гэтыя крывяжадныя рабыя зьнізу разбойнікі, маючыя моцную бяз выраза дзюбу і доўгія моцныя ногі з вострымі, якігла, кіпцямі, гэтыя пярнатыя ваўкі зараз аб'яўлены па-за законам і як вялікі—цецеравятнік, так і малы—перапялятнік падлягаюць бязьлітаснаму зьнішчэньню. Не адна гаспадыня льле горкія сьлёзы, дзякуючы ястрабу. Каму гэта невядома? Яшчэ куры вобмацкам ходзяць, толькі што пакінуўшы нашэсьці, яшчэ не расправілі, як трэба, крылаў сваіх ластаўкі—надзейныя вартавыя, першыя б'ючыя трывогу пры зьяўленьні „супрацiўніка“,—глядзь крывяжадны драпежнік ўжо пусьціў пер'е па двары. Ні мінуты, ні гадзіны ня ведаеш, калі наляціць гэты разбойнік; значыць, ня трэба даводзіць, што ястраб—шкодны драпежнік не для аднэй толькі паляўнічай гаспадаркі. Сродкі барацьбы з ім—стрэльба. А стрэльба-ж ня ўсюды знойдзецца. Ды што зробіць баба са стрэльбай, калі ўсе мужчыны ў полі? Ня кожны і мужчына зможа зьняць быстракрылага лятуна з свайго самапала. А весьці барацьбу з ім неяк трэба!

Я ўспамінаю цікавы спосаб зьнішчэньня гэтага драпежніка, які і перадаю. Заключаецца ён у наступным:

Каля таго месца, дзе зьявіўся ястраб, утыкаюць у зямлю на трохмэтравым квадраце чатыры тонкія, у два мэтры даўжыні (даўжэй лепш) палкі, у якіх надрэзаны па дзьве зарубкі (адна ў самага канца зьверху, а другая на два вяршкі ад зямлі), да зарубак зьлёгку прымацоўваюць з бакоў і зьверху лёгкую і самую рэдкую сетку. Для прыманкі ястраба прывязваюць пасярод пляцоўкі, да асобнага калка, жывую курыцу так, каб курыца свабодна магла хадзіць і была-б у сваёй натуральнай позе. Убачыўшы здабычу, ястраб з усяго размаху ўдарае ў сетку, зьбівае яе з колышкаў і заблытваецца. Наладжаньне такой лавушкі па сродках кожнаму, а ў каго ёсьць старыя сетныя снасьці, то і зусім ніякіх выдаткаў ня трэба.

Занятым людзям ня трэба траціць і часу: досыць паказаць дзецям, даць ім указаньні, і яны з вялікім захапленьнем зоймуцца гэтай работай.

**Ф. А.**

## Спосаб лоўлі варон і сарок

Варону і сароку спаймаць ня цяжка. Ловяць іх сілкамі, петлямі, якімі ловяць звычайна паляўнічых птах і яшчэ адным цікавым спосабам. Спосаб гэты мае абмежаванае распаўсюджаньне, большасьці невядом, між тым вельмі рэальны, просты, думаю дасьць асаблівы інтарэс нашаму чытачу і прыдзе на дапамогу яму, калі спатрэбіцца спаймаць гэтых птах жывымі бяз усякіх пашкоджаньняў. Спосаб гэты заключаецца ў наступным.

Скручваюць паперу ў відзе конуса (фунцікам), унутры абмазваюць клейсьцерам ці другім чым клейкім, кладуць у сярэдзіну якую-небудзь пажыву, каб асабліва спакусіла гэтую птаху і „фунцік“ утыкаюць у пясок ці ў сьнег. Варона ці сарока, жадаючы паласавацца, спачатку недаверліва адносіцца да пастаўленай лавушкі, абыходзіць вакол, разглядае, але хутка ўсоўвае галаву ў папяровы „фунцік“, пер'е прыліпае да яго і яна ўскаквае ў папяровым каўпаку. Баючыся, напэўна аб што небудзь ударыцца, птуха падымаецца „сьвечкай“ усё вышэй і вышэй і нарэшце падае кубарам на тое месца, з якога зьнялася.

**Ф. А. Лялін.**

# Жыцьцё і праца райтаварыстваў і нізавых ячэек паляўнічых

* Рагаўская ячэйка паляўнічых, Заслаўскага раёну працуе неарганізавана, бясплянава. Зусім ня цікавіцца і не займаецца справай зьнішчэньня бадзячых сабак, якіх на тэрыторыі сельсавету разьвялося вельмі многа.

Старшыня ячэйкі **Дасэйн Э. Т.** і кіраўнік калгасу „Полымя“ **Майсеенка С.** сьвядома тармозяць і зрываюць справу зьнішчэньня драпежнікаў.

**Д. А., В. М.**

* Капыльскаўе і Мазырскае таварыствы паляўнічых не праводзяць работы сярод паляўнічых мас у напрамку зьнішчэньня бадзячых сабак, ваўкоў і інш. шкодных драпежнікаў. Дрэнна вядзе справу прэміраваньня здатчыкаў паляўнічай прадукцыі. Слаба распаўсюджваецца часопіс „Паляўнічы Беларусі“. Ня цікавіцца разьвіцьцём спорту сярод паляўнічых, выданьнем насьценгазэт.

**М—кі.**

* Паляўнічыя Чабатовіцкай ячэйкі (Уваравіцкі раён) **Красьнякоў Я., Цыганкоў Я.**, замест барацьбы з браканьерамі, водзяць апошніх з сабою на паляваньне, забясьпечваюць іх шротам, порахам і інш. прыладамі. Веснавое паляваньне ўтвараюць з сабакамі. А між тым, ні ячэйка, ні райтаварыства не зьвяртаюць на гэта ніякай увагі. Ні ячэйка, ні райтаварыства таксама не зьвяртаюць увагі на выкананьне чарговых заданьняў па лініі паляўнічай капэрацыі (адстрэл драпежнікаў, загатоўкі ўсіх відаў і інш.). Зусім адсутнічаюць сацмэтады работы сярод паляўнічых — ударніцтва і спаборніцтва. Дрэнна распаўсюджваецца часопіс „Паляўнічы Беларусі“. Заданьні не даводзяцца да паляўнічых.

**Паляўнічы.**

* Рагачэўскае райпраўленьне саюзу паляўнічых часта камандыруе ў Маскву за рознымі патрэбамі справавода і таму наведвальнікі ў час яго адсутнасьці ня маюць магчымасьці атрымаць тое, што ім патрэбна.

Мне здаецца, што праўленьне складаецца не з аднаго толькі тэхпрацаўніка, ёсьць яшчэ і іншыя члены, якіх і можна было-б скарыстоўваць для гэтай патрэбы, бо пакідаць установу без асобы, якая знаходзіцца ў курсе спраў, ня можна.

На будучы час трэба гэткія акалічнасьці прадугледжваць і службовыя камандыроўкі разьмяркоўваць так, каб гэта не адбівалася на працы таварыства і не выклікала нездавальненьня членаў.

**Ш.**

## Узьняць дасягненьні, зьнішчыць недахопы

З моманту пераабраньня праўленьня работа Слуцкага т-ва палепшылася. Калі ў 4 квартале 1931 году заданьні па пушнарыхтоўках былі выкананы на 94 проц., па мехнарыхтоўках быў прарыў (заданьне выканана на 49,3 проц.), дык зараз мы маем карэнныя зьмены—процант выкананьня мехнарыхтовак у першым квартале гэтага году ўзрос і пляны выкананы—па пушніне—221 проц., па мехсыравіне—200 проц.

Але некаторыя ячэйкі паляўнічых адстаюць.

Характэрнымі ячэйкамі, якія пушмехнарыхтоўкі ставяць у цэнтр увагі ўсёй сваёй работы, зьяўляюцца: Навадворжаўская, Мялешкаўская, Дарозінская і Прышчыцкая. Гэтыя ячэйкі квартальныя пляны перавыканалі.

Дрэнна працуюць Урэцкая і Языльская ячэйкі. Тут страляюць па вераб‘ёх.

Асабліва вылучыліся з раду добрых паляўнічых ударнікі **Вечар Ян, Кісель Ян, Ласевіч Ал., Лучнік, Зубарэвіч і Забела.** Гэтыя таварышы нарыхтоўкам удзялялі шмат увагі.

Паляўнічыя слаба ахоплены контрактацыяй. З 890 паляўнічых толькі 230 заключылі ўмовы.

Зьнішчым недахопы, узьнімем дасягненьні.

**Якімовіч Л.**

## ЗУЕВУ ПАШАНЦАВАЛА

Віднее. Лёгкі ветрык калыша невялічкія кусточкі. З сьвістам крылаў пранесьліся недзе качкі і пападалі на ваду недалёка ад лесу. Ім адгукнулася недзе там-жа яшчэ адна качка.

— Кра-к! Кра-к! Кра-к!—застагнаў качур.

Паляваньне на качак дазвалялася з 25 красавіка па 15 мая.

Гэта ў 1932 годзе ўвесну.

Мясцовасьць глухая. Ад чыгункі 25 кілёмэтраў. Першая станцыя ў раёне Лепель. І вось на адлегласьці 25 кілёмэтраў раскінулі свае абшары балоты Ляхаўскага с.-с. З двічыны тут водзіцца больш за ўсё зайцаў і цецярукоў, ёсьць магчымасьць ім тут распладзіцца і хавацца. Мясьцінамі пападаецца лес, які складаецца з елак, хвоек, ядленцу і некаторых лісьцёвых парод. Мясцовасьць няроўная. У гэтым

лесе водзяцца ваверкі, рабцы, слонкі і шмат іншай дзічыны. Далей яшчэ на захад цягнецца ўжо вялікі лес, дзе можна знайсьці і вывадак драпежніка Беларусі—воўка.

Але гэта за межамі Ляхаўскага сельсавету. Качак тут надта мала, бо рэчкі няма, а балот таксама. Толькі можна сустрэць іх увесну дзе-небудзь на невялічкіх балацянках, якія потым высыхаюць. Ды яшчэ, праўда, у большай колькасьці на возеры, якое знаходзіцца ў сельсавеце. Яны там бываюць круглы год. Возера вялікае, чыстае, амаль няма ніякіх зарасьляў і падыйсьці да іх вельмі цяжка. Вось у гэтыя невялічкія балацянкі з вабікам у кішэні вышаў паляўнічы калгасьнік **Зуеў Міхась** на качак. Кракнула качка. **Зуеў** адгукнуўся.

Яму застракатаў у адказ качур, а потым прыляцеў і камнем шлёпнуўся на ваду, недалёка ад яго.

„Ну, цяпер не ўцячэ",—падумаў ён. Толькі гэта ўзяў на мушку і хацеў было спусьціць курок пістаноўкі, як з-за куста крокаў у 20 выпрыгнула шэрая ваўчыца. Ствалы зьвярнуліся на яе і грымнуў стрэл.

Драпежная жывёла падскочыла разы тры, а потым пашла крокам. Прайшоўшы крокаў 50 лягла пад кусты.

Яму яшчэ доўга прышлося ганяцца за ёй, бо патроны былі з бекасьнікам. Хоць бекасьнік, але пасьля няці стрэлаў зьвер паплаціўся жыцьцём.

Пры ўскрыцьці было знойдзена 4 маладых ваўчанят.

**М. Белавусаў.**

## Ячэйка ня сочыць

Верхняслабодзкая ячэйка паляўнічых, Брагінскага раёну, зусім ня цікавіцца паляўнічай гаспадаркай. Яшчэ толькі настала вясна, а паляўнічыя пачалі біць качак. Чаму ня выключаюцца з саюзу браканьеры?

**Іголка.**

## Арганізаваны брыгады

Ляхавіцкая ячэйка, Лепельскага раёну ў веснавы час у аснову сваёй работы паклала наступнае: загатоўку крата, зьнішчэньне драпежнікаў і ахова маладняка.

Лёзунгам яе работы стаіць—ніводнага драпежніка па паляўнічых угодзьдзях.

Для лепшай работы яна разьбіта на 4 брыгады.

**Белаўсаў.**

# Замест слонак—ваўчанят

У пачатку мая паляўнічы Менскага гарадзкога таварыства **Плышэўскі Ю.** паехаў на слонак у Блужу, недалёка ад 18 разьезду Зах. чыг. Месца гэта для нашага героя было незнаёма. **Плышэўскі** яшчэ з вечара пайшоў у лес шукаць „тягу" Слонак, але апошнія яшчэ не цягнулі. Раптам з боку балота Плышэўскі пачуў галасы ваўкоў. Плышэўскі рашыў заўтра ў раньні пайсьці туды на разьведку.

„Тяга" была дрэнная і пасьля захаду сонца. Прыйшоў паляўнічы **Паўловіч**, які расказаў, што ваўкі знаходзяцца на „Зялёнай градцы" у лазьняку, які знаходзіцца кілёмэтры за поўтары ад таго месца, дзе была „тяга".

Назаўтра раніцой мы накіраваліся разам з **Паўловічам** на качураў, але і тут паляваньне было няўдалае. Адпачыўшы некаторы час, пасьля гэтага **Плышэўскі** накіраваўся ў лес. Выходзіў ён удоўж і поперак усё тое балота, дзе адгукаліся ўчора ваўкі, але нічога не знайшоў, апрача воўчых сьлядоў. Увечары, схадзіўшы яшчэ раз на слонак і нічога не забіўшы, паляўнічы вярнуўся ў Менск.

Але думка пабіць ваўкоў не пакідала **Плышэўскага** і ў горадзе. Тады ён вярнуўся ў Блужу і разам з **Паўловічам** зноў пашлі на балота. Апошні пашоў у адзін бок балота, а **Плышэўскі** ў другі. У адным месцы ўвесь час кружыліся крумкачы, якія і навялі на думку Плышэўскага, што тут гняздо ваўкоў. Узяўшы стрэльбу на ізгатоўку ён пачаў памалу, супроць ветра падыходзіць



тав. Плышэўскі.



Тав. Плышэўскі з ваўчанятамі.

да таго месца, над якім кружыліся крумкачы. Не прайшло і паўгадзіны, як пачалі пападацца воўчыя сьцежкі, шэрсьць, а потым **Плышэўскі** ўбачыў, як замітусілася ваўчыца, якая хацела адвесьці яго ад гнязда. Страляць было нельга. Потым ваўчыца выскакнула на чыстае месца і паглядзела на паляўнічага, які ў гэты час стрэліў па ёй карцеччу.

На стрэл падыйшоў **Паўловіч.** Потым паляўнічыя, каб хутчэй знайсьці ваўкоў, зноў разышліся ў розныя бакі. Праз пяць мінут пасьля гэтага **Плышэўскі** ўбачыў на мху ваўчанят. Іх было восем. Падышоў зноў **Паўловіч**, які разам з **Плышэўскім** засеў пільнаваць старых. Але паляваньне за старымі не ўвенчалася посьпехам, за выключэньнем таго, што была паранена ваўчыца.

Восем ваўчанят **Плышэўскі** даставіў жывымі ў Менскае гарадзкое таварыства і атрымаў прэмію.

Трэба адзначыць, што калгасы вельмі кепска зацікаўлены ў зьнішчэньні ваўкоў. На ўсе просьбы **Плышэўскага** бліжэйшы да Блужы калгас ня даў яму падводы заехаць у 18 разьезд. Няўжо ваўкі менш прыносяць шкоды, чым каштуе падвода ад Блужы да 18 разьезда па разьліку старшыні калгаса.

**П.**

---

## Л І Т А Р А Т У Р Н А Я С Т А Р О Н К А

**МІК. ЦЭЛЕШ**

# Зімовыя набегі *)

*(Канец)*

VI

Сонца было ўжо нізка і пара было ісьці дадому. Прахор па стрэлах чуў, што Ігнат недзе далёка. А страляў Ігнат тры разы, прыблізна праз гадзінупаўтары раз за разам. Прахор быў упэўнены, што Ігнат будзе з дабычай, бо апошні, як гэта было ўсім вядома, дарма набояў ня псуе. Гукнуўшы некалькі разоў Ігната, Прахор вышаў на дарогу, сеў на шырокі роўны пень, зрэзаны нядаўна асіны і закурыў. Дым павуціньнем паплыў у ціхім паветры, і такім самым павуціньнем плылі думкі ў галаве Прахора.—„У чым тут справа? І колькі я не хадзіў „трапіць“ гэтага паскуднага—ён так злы быў у гэты час!—зьвярка, заўсёды заяц у мяне падымецца ззаду, ужо тады, калі я прайду яго. „Толькі стаміўся. Каб яго ліха! Гм-м-м... Цікава!“ Прахор і не заўважыў, як падыйшоў Ігнат з трыма зайцамі за плячыма.

— Ну як?

— Эх, і не гавары!—загаманіў горача Прахор.— Тры зайцы падняў, а хоць бы стрэліць удала прышлося. Як я асьцярожна не хаджу, усёроўна ззаду заяц выскача. Ад чаго гэта так?—запытаўся ён у Ігната.

— Такія ўжо зайцы,—адказаў той.

Прахор зазлаваў, што Ігнат ня хоча сказаць, ня хоча адкрыць таямніцу зайцавых набегаў, сьлядоў, ня хоча дапамагчы таварышу ў той час, як ён, Прахор, рад дапамагчы Ігнату...

— Ну, добра!—буркнуў ён сабе пад нос і накіраваўся дарогай у напрамку калгасу.

Каб не рабіць круга, паляўнічыя пайшлі нацянькі, з тым разьлікам, што яны выкінуць два кілёметры, апрача таго Прахор хацеў прайсьці праз калгасны сад і паглядзець, ці шмат там нахадзілі зайцы. Падыйшоўшы да саду яны былі вельмі зьдзіўлены шматлікасьцю сьлядоў гэтых зьвяркоў—увесь сьнег

---

*) Гл. „П. Б.“ № 3, 4.

быў вытаптан, нібы тут іх быў цэлы эскадрон. Прахор праверыў падкормку, снапы былі ўсе зьедзены, але яблынкі засталіся не зачэпленымі. Ігнат жа за гэты час трохі аддыхнуў, усеўшыся, як каршун у сваёй шэрай сьвітцы, на плоце. Калі Прахор падыйшоў да яго, Ігнат загаманіў:

— Колькі я на сьвеце жыву, ня бачыў такога скопішча зайцоў.

— А ты думаў, што мы дарма ставіць будзем авёс? І сад цэлы застаўся.

— Ай, яй-яй!—зьдзіўляўся ўсё Ігнат.

— Аж неяк неахвота пакідаць гэтага месца,— сказаў Прахор.—А што, калі пахадзіць тут па сьледу?—запытаўся ён у Ігната,—аднак сонца яшчэ не зайшло.

— А, чорт яго!—не згадзіўся Ігнат.—Ужо гэтыя, плечы адарвалі!

І сапраўды, панасіць цэлы дзень трох зайцоў такому слабаму чалавеку, як Ігнат, гэта што небудзь ды значыла. Ігнат гнуўся, здаецца, у тры дугі пад паклажай, часьцяком спыняўся, стогнаў і набіраў у лёгкія сьвежага паветра, шырока дыхаючы, а з зайцамі раставацца не хацеў.

— Але-ж я без здабычы,—адказаў, пасьля некаторага маўчаньня Прахор.—Гэта-ж сорамна дахаты вяртацца.

Ігнат паглядзеў на Прахора, паправіў на плячох зайцоў, якія нацёрлі яму сьпіну аж да болю, і замяўся на месцы.

— Ну, дык як, Ігнат? Бачыш, я табе па праўдзе скажу, што без цябе не пайду, бо напрасна...

— Ну, давай!—згадзіўся, урэшце, нехаця Ігнат.— Толькі я ня буду малька займаць, а пойдзем адным у дваіх.—Ён зноў паправіў плячо, ад чаго яшчэ раз зморшчыўся.

Знайшоўшы выходныя сьляды зайца з „жыроў“, Прахор і Ігнат пайшлі імі. Заяц быў павярнуў пад калгас, потым вярнуўся і перасёк свой сьлед,— гэта першая пятля. Потым даў круг, завярнуў улева і зноў перасёк сьлед. Потым зноў даў круг і пайшоў у лагчыну ў ельнічак, які сіняватымі верхавінамі віднеўся з-пад сьнегу. Прахор цьвёрдымі крокамі здаровага чалавека ішоў уперадзе, а за ім аслабеўшы сунуўся Ігнат. Разблытваць узяты імі сьлед было цяжка, бо амаль праз пяцьдзесят-сто крокаў пападаліся сьляды другіх зайцоў і трэба было, каб не паблытаць іх, выходжваць акуратна сьляды ўзятага зайца. Але ня глядзячы на гэта, Прахор упарта ішоў і ішоў уперад. Ігнат-жа, ідучы ззаду, думаў пра тое, чаму столькі набегла зайцоў. „Навошта нам было хадзіць так далёка“,— гаварыў ён сам сабе.—„А ўсё ж такі маладзец гэты Прахор! Што надумае, тое і зробіць, а як зробіць, дык і камар носа не падточа. Цікавы чалавек, гэты Прахор. Гм... Цікавы...“ Зараз Ігнат успомніў словы Прахора па дарозе на паляваньне аб тым, што ён (Ігнат) дрэнна робіць, што не здае шкуркі ў каапэрацыю. А ўспомніўшы гэта перад яго вачыма зараз-жа мільгнула ў думках куніца і Гаркун. „Так, праўду ўсё-ж кажа Прахор“—падумаў ён яшчэ раз.—„І клапатлівы-ж ён наконт паляўнічай справы“. Ігнат нешта хацеў сказаць Прахору, але яны зноў перасеклі ўжо ў трэці раз сьлед зайца.

— От яшчэ адна пятля,—сказаў Прахор, паказваючы на сьляды зайца.

— Стой, пачакай!—адказаў Прахор.

— Што?..—павярнуўшы галаву запытаў Прахор.

— Ды так... значыць ня туды. Ня ўмееш ты хадзіць, ад таго ў цябе зайцы і парываюцца ззаду.— Ігнат пачаў вучыць Прахора.—Калі ты дайшоў да другой пятлі, трэба чакаць, што заяц раптоўна выскакне з сьнегу, а каб ён ня выскакнуў ззаду, дык ня трэба ісьці па сьляду, а валі проста праз круг, перасякай яго, ды прыглядайся да кусьцікаў, ямачак, пнёў. Калі тут не падняўся, тады зноў ідзі сьледам да трэцяй пятлі, а потым зноў праз круг валі. Ну, дык ідзі, а я тут пастаю.

Прахор зноў вялізарнымі крокамі пайшоў уперад. Хвілін праз некалькі пасьля таго, як Прахор пакінуў Ігната, выскакнуў з-пад лапніку елачкі ўперадзе Прахора заяц. Той хутка ўскінуў стрэльбу і стрэліў. Кароткі, глухі гук разарваў студзёную цішыню і пакаціўся рэхам у ваколіцы. Заяц перакуліўся разы два праз галаву і задрыгаў нагамі, афарбоўваючы сьнег сваёй крывёй. Прахор падняў зайца і падышоў да Ігната.

— Лоўка ты яго, маладзец!—пахваліў Ігнат.

Прахор быў рад. Радаваўся і Ігнат.—Чаго-ж, такая ўдача! Прывязаўшы зайца да торбы, паляўнічыя выйшлі на дарогу і праз дзесяць хвілін былі ў калгасе.

VII

Але радасны настрой пакінуў Ігната ў той-жа момант, як ён пераступіў парог сваёй хаты. Перад яго вачмі адкрыўся такі малюнак: сабака Шарко ляжаў на падлозе ў грудзе зьвярыных шкурак і жаваў вушы аднаму зайцу. Шмат шкурак было ўжо разарвана ў шмацьцё, а некаторыя былі толькі параскіданы па сенцах. Шкуркі лісіцы, вавёркі і два тхары хаця і ляжалі каля сабакі, разам з зайцамі, але сабака не чапаў ніводнага з гэтых зьвяроў. Больш за ўсё па густу яму прышліся зайцы, на іх ён і наваліўся з усёй сілай...

Ігнат, як толькі ўбачыў гэты малюнак, затросься ад злосьці.

— Вон, каб цябе воўк! Макрына, Макрына, дзе ты, што ты нарабіла. Заб'ю, старую падлу!

Але Макрыны ня было на яе „шчасьце“ дома. Тады Ігнат з усёй злосьцю накінуўся на Шарко, якому, як відаць, вельмі не хацелася пакідаць шкуркі, бо калі на яго крыкнуў гаспадар, ён грозна завурчэў.

— Ага! Дык ты яшчэ агрызацца!—крыкнуў Ігнат, узяўшыся за ствалы стрэльбы і кінуўся на сабаку. Наколькі апошняму не хацелася расставацца са шкуркамі, але ўбачыўшы так узброенага свайго гаспадара, уцяміў у чым справа і, падняўшы хвост, без аглядкі, загуляў па дварэ. Ігнат са стрэльбай за ім. Сабака дагадаўся, што будзе кепска, калі ён на некаторы час не пакіне той двор, які яму даручана аберагаць і кінуўся на агарод. Ігнат пагнаўся за сабакам. Але ў сабакі ногі хоць карацейшыя, чым у яго гаспадара, ды больш спрытнейшыя і пакуль апошні пералез праз плот, са двара на агарод, Шарко быў ужо на недасяжнай нават для пістаноўкі Ігната адлегласьці.

Яшчэ горш раззлаваным вярнуўся Ігнат у двор. Увайшоўшы ў сенцы, ня скідаючы стрэльбы і зайцоў з плеч, ён растапырыў бяспомацна рукі і акамянеў, гледзячы на шкуркі.—„От нарабіў! Зарабіў! Куніцу гандляру аддаў, а трыццаць зайцоў сабаку. Хіба разумны чалавек зробіць так?“—паставіў пытальнік сам перад сабой.

— Макрына!—раптам крыкнуў ён зноў.—Гэта яна вінавата. Дам, от дам калі!..

— Чаго крычыш!

Ігнат агляну́ўся. Перад ім стаяла, з пабялеўшым ад спалоху тварам і з навернутымі на вачох сьлязьмі, Макрына.

— Што гэта?—ціха, сьцяўшы вусны, зашаптаў Ігнат.

— Твая работа,—адказала Макрына і заплакала.

— Чаго ты хочаш, гад ты такі! Што ты мяне пячэш увесь век... Ці я табе не казала, што нечага хітрыць? Ці я табе не казала? Калі ты паляўнічы, дык і будзь паляўнічым... Шкуркі трэба здаваць куды сьлед, як і робяць усе разумныя людзі... Што ўчора казаў Прахор? Што?—Сьлёзы душылі яе і не давалі гаварыць. Ёй успомнілася ўсё яе горкае жыцьцё з гэтым чалавекам, усё тое гора, якое яна перажыла за дваццаць год жыцьця з ім, а ад гэтага яшчэ балючэй стала на сэрцы. Ігнат-жа моўчкі стаяў перад шкуркамі і глядзеў, то на жонку, то на сваю сапсаваную работу, на шкуркі. У яго галаве быў хаос і ён імкнуўся разабрацца ў ім.—„Хто вінават?“—стаяў пытальнік перад яго вачмі. Некалькі хвілін працягвалася такая сцэна, потым Ігнат слаба падняўся, падыйшоў да плакаўшай жонкі і паклаў сваю грубую руку на яе плячо.

— Ня плач, Макрына! Апошні раз. Больш гэтага ніколі ня будзе... Зараз-жа! Зараз-жа занясу ўсе шкуркі Прахору і куплю табе хустку, а так-сама падпішу кантракт на далейшае паляваньне! Зараз-жа...—уздыхнуў ён.

---

Прахор быў вельмі зьдзіўлены, калі Ігнат уваліўся да яго ў хату з цэлым ворахам шкурак усякіх зьвяроў і з трыма зайцамі за плячыма, якіх ён забыўся дома пакінуць.

— Што з табой?

— А вось прынёс усё да цябе... Што засталося. (Ён хацеў расказаць аб здарэньні, але своечасова замаўчаў). А таксама пішы кантрактацыю. Дурань я быў... От што...—яшчэ не супакоіўшыся гаварыў дрыжачым голасам Ігнат.

— Так-бы даўно!—сказаў Прахор.—А то дурыць, дурыць, хітрыць...

Праз гадзіну Ігнат вяртаўся дахаты з ботамі і з вялізарнай ваўнянай хусткай для Макрыны.

# Аб пляне збожжазагатовак з ураджаю 1932 году і разгортваньні калгаснага гандлю збожжам

**Пастанова СНК СССР і Цэнтральнага камітэту ЎсеКП(б)**

(*Гл. пачатак на 2-й стар. вокладкі*).

**па Паўночным краі**—2 млн. пуд. замест пляну мінулага году—3 млн. пуд.;

**па Закаўказьзі**—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—5 млн. пуд.;

**па БССР**—4 млн. пуд. замест пляну мінулага году—6 млн. пуд.;

**па Далёка-Ўсходнім краі**—7 млн. пуд. замест пляну мінулага году—8 млн. пуд.;

**па Сярэдняй Волзе**—72 млн. пуд. замест пляну мінулага году—106 млн. пуд.;

**па Ніжняй Волзе**—77 млн. пуд. замест пляну мінулага году—100 млн. пуд.;

**па Башкірыі**—26 млн. пуд. замест пляну мінулага году—25 млн. пуд.;

**па Уралу**—48 млн. пуд. замест пляну мінулага году—71 млн. пуд.;

**па Заходняй Сібіры**—62 млн. пуд.

б) У адпаведнасьці з ростам саўгаснай гаспадаркі павялічыць у 1932 годзе плян збожжазагатовак па саўгасах усіх сыстэм да 151 млн. пуд. супроць зданых у мінулым годзе 108 млн. пуд. з наступнай разьбіўкай па сыстэмах:

Па Збожжатрэсту—110 млн. пудоў, па Саюзцукру—20 млн. пудоў, па насеннаводчых трэстах—10 млн. пудоў, па прамсаўгастрэсту—5 млн. пудоў, па жывёлагадоўчых саўгасах (саюзных і рэспубліканскіх)—3 млн. пудоў, па іншых рэспубліканскіх саўгасах—3 млн. пудоў.

Збожжазагатоўчы плян па саўгасах разьбіць па раёнах наступным чынам:

Украіна—29 млн. пудоў, Паўночны Каўказ—37 млн. пудоў, Крым—4 млн. пудоў, ЗСФСР—0,4 млн. пудоў, Сярэдняя Азія—2,3 млн. пудоў, Ніжняя Волга—12 млн. пудоў, ЦЧВ—10 млн. пуд., Сярэдняя Волга—16 млн. пудоў, Татарыя—0,3 млн. пудоў, Казакстан—4 млн. пудоў, Урал—8,5 млн. пудоў, Башкірыя—5 млн. пудоў, Заходняя Сібір—13,5 млн. пудоў, Усходняя Сібір—3,5 млн. пудоў, Ленінградзкая вобласьць—0,05 млн. пудоў, Заходняя вобласьць—0,35 млн. пудоў, Маскоўская вобласьць—0,8 млн. пудоў, Іванаўская вобласьць—0,2 млн. пудоў, Ніжагародзкі край—0,1 млн. пудоў, ДВК—4 млн. пудоў.

в) Выкананьне пляну збожжазагатовак з ураджаю 1932 году закончыць не пазьней 1 студзеня 1933 г.

г) Стварэньне насенных фондаў у калгасах закончыць не пазьней 15 студзеня 1933 году.

д) Прызнаць мэтазгодным па сканчэньні выкананьня гэтага збожжазагатоўчага пляну і стварэньня насенных фондаў, г. зн. з 15 студзеня 1933 году, прадаставіць калгасам і калгасьнікам поўную магчымасьць бесьперашкоднага продажу лішкаў свайго збожжа на свой погляд як на рынках, так і ў сваіх калгасных крамах, абавязаўшы мясцовыя органы ўлады аказваць у гэтым калгасам і калгасьнікам поўную садзейнасьць і прыняць меры да выкараненьня прыватнікаў і перакупшчыкаў, якія прабуюць нажыцца на калгасным гандлі.

Старшыня СНК СССР **В. Молатаў (Скрабін).**

Сакратар ЦК УсеКП(б) **І. Сталін.**

Рэдактар—рэдкалегія: **Волдынь, Тамашэўскі, Цэлеш і проф. Федзюшын.**

Адказны рэдактар **П. Тамашэўскі.**

Друкарня імя Сталіна Зак. № 1389 У ліку 12.870 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—3.

# ТАВАРЫШ, ТЫ ХОЧАШ ВЕДАЦЬ,

як трэба весьці на калектыўных пачатках паляўнічую гаспадарку? Як арганізаваць калектыўнае разьвядзеньне каштоўных пушных зьвяроў? Як арганізаваць трусятнік? Як выбраць і прыстраляць стрэльбу? Як выбраць сабаку для паляваньня? Якія спосабы паляваньня могуць даць лепшыя вынікі? Дзе жывуць розныя прамыслова-паляўнічыя зьверы і птушкі? Якія іх прывычкі? Якія неабходныя ўмовы, каб іх было больш у паляўнічых угодзьдзях? Чым вы можаце дапамагчы ў справе вывучэньня паляўнічай гаспадаркі? Чым дапамагчы сыстэме паляўнічай каапэрацыі ў хутчэйшай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі? Як самому ўключыцца ў работу гэтай галіны?

## НА ЎСЕ ГЭТЫЯ І ДРУГІЯ, ЦІКАВЯЧЫЯ ВАС, ПЫТАНЬНІ ТЫ МОЖАШ АТРЫМАЦЬ ВЫЧАРПАЛЬНЫЯ АДКАЗЫ.

## ВЫПІСВАЙ НА 1932 ГОД ЧАСОПІСЬ

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

Орган прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗУ“.

У часопісі шырока асьвятляюцца пытаньні паляўнічае каапэрацыі, будаўніцтва калектыўнай паляўнічай гаспадаркі, жыцьцё і норавы зьвяроў і птушак, пушная справа, паляўнічае права, спосабы паляваньня, сабакагадоўля, ружэйная тэхніка. Асобную ўвагу часопісь будзе аддаваць пытаньням будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, калектыўнай пушной зьверагадоўлі і трусагадоўлі, а таксама біолёгіі прамыслова-паляўнічых жывёл, бо веды яе забясьпечваюць пасьпяховасьць паляваньня і паскараюць тэмп сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рацыянальную паляўнічую гаспадарку.

У 1932 годзе ў часопісі мяркуецца адкрыць спэцыяльны аддзел, асьвятляючы пытаньні рыбаводзтва і рыбалоўства.

САЮЗЫ, ТАВАРЫСТВЫ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЯЧЭЙКІ

Вылучайце арганізатараў падпіскі на нашу часопісь.

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| | |
|---|---|
| на 1 год | 2 р. 40 к. |
| на паўгода | 1 „ 20 „ |
| на 3 мес. | — 60 „ |

На меншы тэрмін падпіска ня прымаецца.